


*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ШТОТЫДНЁВІК

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**Пятніца, 9 сакавіка 1990 г. № 10 (3524) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.**


## ГОЛАС ДА ГОЛАСУ...

### Выбары: пасля першага тура

**УВЕЧАРЫ 4 САКАВІКА...** І з нервамі ў мяне ўсё, нібыта, у парадку, і празмернай эмацыянальнасцю, здаецца, не вылучаюся, але тое, што адчуў з 20.00 да 20.15, ніяк нельга было назваць душэўнай раўнавагай ці псіхалагічным камфортам.

Супрацоўнікі аднаго з выбарчых участкаў Ракасоўскай акругі № 5 прыбіралі са сталоў усё непатрэбнае, рассаджваліся спачатку так, пасля гэтак... Паўза доўжылася, напружанне расло і вышэйшай кропкі дасягнула, калі з рассургучаных урнаў на традыцыйны кумачовы абрус хлынуў вадаспад белых і блакітных паперак.

Далейшыя аперацыі — раскладванне бюлетэняў па стосах, падлікі і перападлікі ў слупок — руціннасцю сваёй настолькі не адпавядалі сэнсу свята дэмакратыі, што давалі падставу для іроніі. Стала лягчэй...

Бліжка апоўначы мы, група падтрымкі, падсумавалі звесткі з усіх участкаў акругі. Выходзіла, што наш кандыдат, кандыдат Саюза пісьменнікаў Беларусі галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва» Анатоль Вярцінскі стаў народным дэпутатам Беларускай ССР.

Такім чынам, завяршаўся перадвыбарчы марафон. Для нас, лімаўцаў, ён быў адметны не столькі самым непасрэдным удзелам у палітычнай кампаніі, колькі тым, што, па сутнасці, на карту была пастаўлена пазіцыя, якую спрабуе адстойваць наша газета.

...Прынцыпы прынцыпамі, а з галавы не ідзе надпіс, зроблены на адным з бюлетэняў: «Дапамажыце! У дачкі — склерадэрмія...»

**ПРАГНОЗ, ЯКІ СПРАЎДЗІЎСЯ.** Напярэдадні выбараў маскоўскія сацыёлагі абнародавалі вынікі апытання, з якіх вынікала, што сёлетняя выбарчая кампанія ў цэлым праходзіла менш актыўна, чым леташняя — па выбарах народных дэпутатаў СССР. Прыводзіліся звесткі аб тым, што большасць кандыдатаў успрымалася выбаршчыкамі як агульная маса. Палавіна апытаных нават у лютым яшчэ не ведала сваіх кандыдатаў, кожны трэці адзначаў фармалізм і пустаслоўнасць выбарчай кампаніі. Чвэрць выбаршчыкаў не верыць, што кандыдаты выканаюць свае абяцанні...

Уласны вопыт удзелу ў перадвыбарчай агітацыі пацвярджае тэндэнцыі, акрэсленыя сацыёлагамі. Як ні парадаксальна, але пад час кампаніі рэальна ўвасабляўся лозунг застойнай ідэалогіі «Дайсці да кожнага!» Цэнтр барацьбы за галасы выбаршчыкаў перамясціўся з актавых залаў і газетных старонак на вуліцы, у двары мікрараёнаў, непасрэдна ў кватэры, дзе жывуць людзі. Цяжка перабольшыць значэнне соцень сустрэч, некаторыя з якіх можна лічыць сапраўднымі журналісцкімі ўдачамі. У цэлым жа ўражанне... Досыць няпэўнае. З розным давялося сутыкнуцца — з катэгарычным «альбо дай, альбо ідзі», з разважлівай зацікаўленасцю, але, бадай, найбольш — з ветлівай абыякавасцю.

Што гэта? Своеасаблівы палітычны авітаміноз? Вынік штучных перашкод на шляху абнаўлення нашага жыцця, на шляху палітызацыі мас?

І першае, і другое.

За мінулы месяц людзі начыталіся і наслухаліся шматлікіх перадвыбарчых платформ, праграм, выступленняў. У іх было багата шчодрых абяцанняў і добрых пажаданняў, часам, мабыць, і не зусім рэальных, не зусім шчырых. Што ж, выбары ёсць выбары, палітыка ёсць палітыка... І жыццё ёсць жыццё, а ў ім — пустыя прылаўкі, злыя чэргі, чарнобыльскі сіндром, жыллёвая праблема... Сітуацыя надзвычай двухсэнсоўная, якая выклікае нестабільнасць, хістанні масавай свядомасці.

З іншага боку, як шмат зроблена, каб яшчэ больш узмацніць неразбярыху. У якіх, напрыклад, апаратных нетрах нарадзілася ідэя прызначыць у адзін дзень выбары ў Саветы ўсіх узроўняў, абрынуўшы на выбаршчыка дзесяткі прозвішчаў, рознанакіраваныя інфармацыйныя плыні?

Далей. Што такое выбары ў акрузе, дзе на адзін мандат прэтэндуюць дзевяць, дванаццаць, семнаццаць кандыдатаў? Хутчэй, конкурс прыгажосці... Сістэмны «грэх» аднапартыйнасці, па ўсім відаць, на развітанне зробіць нам яшчэ адну мядзведжую паслугу. Так, мандаты будуць заваяваны ў напружанай барацьбе, але, з улікам мяркуемай вялікай колькасці перагаласовак, наўрад ці будуць паўнаважкімі, спаўна забяспечанымі «валютай» галасоў выбаршчыкаў. Мы ж марым сёння пра аўтарытэтны беларускі парламент...

**МІФЫ, ЯКІЯ ЛОПНУЛІ.** Іх шмат. І, бадай, галоўны — пра «роўныя магчымасці». На справе гэта абарочвалася адсутнасцю магчымасцей для нармальнага вядзення перадвыбарчай кампаніі. Права

(Працяг на стар. 2).



## ТРЭБА ВЫЖЫЦЬ СЁННЯ

**Сюжэт пра Мінскі дзіцячы гематалагічны цэнтр, паказаны ў канцы мінулага года праграмай «Взгляд», хоць і быў «адаптаваны», усё ж выклікаў у многіх стан шоку. Па-першае, былі абвергнуты афіцыйныя запэўніванні ў тым, што малыя дозы радыяцыі, атрыманыя за кошт унутранага абпраменьвання, на здароўе не ўплываюць. Па-другое, выявіўся жахлівы стан нашай дзіцячай аховы здароўя...**

Амаль чатыры гады назад на нарадзе, скліканай у сувязі з радыяцыйнай пагрозай, загадчыца Мінскага дзіцячага гематалагічнага цэнтра В. Алейнікава і прафесар М. Паўлава звярнулі ўвагу на гематалагічную службу Беларусі, бо ад радыяцыі найперш церпіць крывяносная сістэма, асабліва ў дзяцей. Аднак тыя, хто па службовым абавязку павінен быў аб гэтым паклапаціцца, не адрэагавалі. Згодна прагнозу спецыялістаў Мінздрава СССР А. Пятака, В. Мацюхіна, А. Цыба і інш. вострыя лейкозы (у народзе — белакроўе) праявяцца вельмі аддалена, і павелічэнне захворваемасці наўрад ці будзе адчувальнае.

Але яно адчувалася даволі хутка, прычым нават у такіх «бяспечных» месцах, як Мінск і Мінская вобласць, якія нават у разлік не браліся. Пасля выбуху ў Чарнобылі ў тры разы павялічылася паступленне ў цэнтр дзяцей з рознымі захворваннямі крыві. Сёння дзве трэці маленькіх пацыентаў стацыянара — з лейкозамі, толькі за першы месяц года — 6 новых выпадкаў. У дзесяць з лішнім разоў павялічылася колькасць крайне рэдкіх раней спадчынных лейкозаў. Амаль утрая ўзрасла смяротнасць па цэнтры.

Гром, які змусіў адказных асоб «перахрысціцца», грымнуў тады, калі невычэрпнае

(Працяг на стар. 2—3).

**Мы страцілі многія ілюзіі адносна ролі і месца КПСС у нашым грамадстве. Учарашняя лозунговая «класіка»: «Партыя — арганізатар нашых перамог!», «Партыя—наш рулявы!», «Партыя і народ—адзіныя!», тысячы разоў паўтораная на старонках газет і кніг, па радыё і тэлебачанні, на кумачах транспарантаў, зараз успрымаецца, бадай, ці не здзеклівa.**

**Сёння многія абвінавачваюць партыю ў тым, што яна прывяла краіну да краю бездані. Так, эмоцыі ёсць эмоцыі, але што КПСС перажывае сёння крызіс даверу да сябе—рэальнасць, ад якой не адмахнешся, пра якую не змоўчыш.**

**Гэтая думка гучала ў многіх выступленнях на лютаўскім Пленуме ЦК КПСС, яна знайшла сваё адлюстраванне ў праекце Платформы ЦК да XXVIII з'езда партыі «Да гуманнага, дэмакратычнага сацыялізму». Нагадаем хоць бы вось гэтыя радкі праекта: «Аўтарытарны рэжым крайне адмоўна адбіўся на партыі, яе ролі ў грамадстве і метадах работы. Склалася фактычна партыйна-дзяржаўная структура ўлады... Вялікую шкоду прынеслі звышцэнтралізацыя, падаўленне свабоднай думкі, рэпрэсіі. Вялікі ўрон прэстыжу партыі нанеслі факты ідэйнага і маральнага перараджэння».**

**Сёння з асаблівай вастрынёй успрымаеш увесь фальш слоў аб «маналітным адзінстве» партыі, аб тым, што «партыя моцная сваім калектыўным розумам», іншых пастулатаў з арсенала ідэалагічных ведамстваў. Ні для каго не з'яўляецца сакрэтам, што ці не адразу пасля смерці У. І. Леніна партыя падзялілася на кіруючую вярхушку і фактычна бяспраўныя партыйныя нізы, якім было наканавана слепа выконваць волю правадыроў.**

**З гэтых няпростых пытанняў і пачалася наша гутарка з сакратаром парткома Мінскага аўтазавода Эдуардам Падаляком.**

# ЧАС СТРАЧАНЫХ ІЛЮЗІЙ, ЧАС НАДЗЕЙ

**З сакратаром парткома Мінскага аўтазавода Эдуардам ПАДАЛЯКАМ гутарыць карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва» Міхась ЗАМСКІ**

**М. Замскі: — Нядаўна на партыйным сходзе Саюза пісьменнікаў БССР адзін з літаратараў-камуністаў заявіў аб выхадзе з КПСС, матывуючы сваё рашэнне нежаданнем знаходзіцца больш у радах партыі, якая губляе свой аўтарытэт у народа. Год назад учынак гэты ўспрымаўся б як экстраардынарны. Сёння ж асаблівага здзіўлення ён не выклікаў, здаюць партбілеты нямала камуністаў. А на МАЗе?**

Э. Падаляк. — Перш чым адказаць на гэтае пытанне, скажу, што на ўліку ў нашай партарганізацыі знаходзіцца 4360 камуністаў. Наша партыйная арганізацыя — адна з самых буйных у рэспубліцы. Што тычыць выхаду з партыі, дык за мінулы год заявы аб здачы партбілетаў напісала каля сарака чалавек.

**— Рабочыя?**

— І рабочыя, і ітэр.

**— А колькі за гэты тэрмін у партыю прынята?**

— Крыху больш, чым выйшла — 45 чалавек.

**— Вам, сакратару парткома, непрыемна сутыкацца з фактамі выхаду з партыі...**

— Радасці, вядома, мала, але, скажу па шчырасці, трагедыі з гэтага не раблю. Здача некаторымі камуністамі сваіх партбілетаў не з'явілася для мяне неспадзяванай. У значнай ступені гэта вынік заганных метадаў прыёму ў КПСС, якія практыкаваліся ў мінулыя гады. Усё ж планавалася зверху — колькі прыняць рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў, колькі жанчын, камсамольцаў і г. д. Невыпадкова ў партыі аказаліся і людзі з меркантыльнай псіхалогіяй.

**— Як жывецца-працуецца чалавеку, што выйшаў з партыі?**

— Як працаваў, так і працуе. Ніякай дыскрымінацыі гэтых людзей мы не дапускаем. Дарэчы, у праекце Платформы ЦК прадугледжаны свабодны выхад з КПСС.

**— Вы ўдзельнічалі ў рабоце лютаўскага Пленума ЦК. Раней наш брат-газетчык у такіх выпадках пытаўся: «Як вам ПАШЧАСЦІЛА трапіць туды?» ці «чым вы абавязаны ГОНАРУ стаць удзельнікам гэтай ГІСТАРЫЧНАЙ падзеі?». Старыя слоўныя штампы ўчэпіста трымаюць нас у сваіх абдымках, але — як вы ўсё-такі апынуліся на Пленуме, не будучы членам ЦК?**

— Калі помніце, у інфармацыйным паведамленні аб адкрыцці Пленума адзначалася, што на яго запрошаны сярод іншых і сакратары буйных пярвічных партарганізацый. Дарэчы, на Пленуме прысутнічала каля сарака маіх калег з буйнейшых заводаў краіны — КАМАЗа, Чэлябінскага трактарнага завода, Іжорскага завода і іншых прадпрыемстваў.

**— Ці не тлумачылася запрашэнне на Пленум гэтай катэгорыі людзей тым, што М. С. Гарбачоў не быў упэўнены ў падтрымцы большасці ЦК? Тым больш, што вам было прадастаўлена права галасаваць нароўні з яго членамі.**

— Пэўна пра матывы нашага запрашэння сказаць не магу, адзначу толькі, што ў час нашай сустрэчы з Міхаілам Сяргеевічам, якая адбылася адразу пасля Пленума, мы выказалі яму сваю думку, што запрашэнне прадстаўнікоў нізавых партарганізацый для ўдзелу ў рабоце пленумаў ЦК КПСС трэба практыкаваць і надалей. Ён з намі пагадзіўся.

**— Усе выступленні на Пленуме былі апублікаваны (здаецца, упершыню), многія з іх уразілі рэзкасцю меркаванняў, але ўсё-такі і па іх цяжка меркаваць пра атмасферу, што панавала на Пленуме, пра асаблівасці палемікі, нарэшце, пра чыста чалавечыя якасці членаў гэтага вышэйшага органа партыйнай і, фактычна, дзяржаўнай улады...**

— Мне, чалавеку, што ўпершыню трапіў у такую абстаноўку, было ўсё цікава, нават само знаходжанне ў зале пасяджэнняў пленумаў ЦК у Крамлі. Уразіў на пасяджэннях шырокі плюралізм думак, адкрытасць, раскаванасць.

Дарэчы, мне давялося блізка сустракацца з Міхаілам Сяргеевічам у час работы ў рэдакцыйнай камісіі па дапрацоўцы праекта платформы, у якую я таксама быў уведзены. Калі гаварыць пра яго як пра асобу, дык ён вельмі вабіць сваёй дэмакратычнасцю, уменнем уважліва выслухаць субяседніка.

**— Я асабіста не прымаю кансерватыўных пазіцый, з якіх выступалі на Пленуме пасол у Польшчы У. Бровікаў, першы сакратар Ленінградскага абкома і гаркома КПСС Б. Гідаспаў, другі сакратар ЦК Кампартыі Казахстана В. Ануфрыеў і некаторыя іншыя, але, тым не менш, нельга адмовіць, напрыклад, таму ж У. Бровікаву ў слушнасці яго ацэнак многіх палажэнняў праекта платформы, як аморфных, дэкларацыйных, адарваных ад жыцця.**

— Я далёкі ад думкі ідэалізаваць праект платформы. На мой погляд, ён павінен быў быць больш сціслы, лаканічны, больш канкрэтны ў вызначэнні шляхоў развіцця грамадства. У праекце гаворыцца, што мы партыя сацыялістычнага выбару. Відаць, трэба было б вызначыць, што тут канкрэтна маецца на ўвазе, якую мадэль сацыялізму мы будзем будаваць.

**— Даруйце, Эдуард Васільевіч, за семдзесят гадоў сваёй улады партыя неаднойчы заяўляла, што сацыялізм у нас пабудаваны «канчаткова і незваротна», што жывём мы пры «развітым сацыялізме» і г. д. А цяпер, аказваецца, нам яшчэ трэба будаваць сапраўдны сацыялізм. Ці не замнога для адной краіны столькі «варыянтаў» сацыялізму?**

— Жыццё не стаіць на месцы, трэба шукаць шляхі ўдасканалення нашага грамадства, выкарыстоўваючы пры гэтым і свой удалы вопыт, і вопыт замежных краін, скажам, той жа Швецыі. Я лічу, што партыя, выпрацаваўшы зараз новыя падыходы да форм уласнасці, знаходзіцца на правільным шляху. Я думаю, што дасць вялікі імпульс развіццю эканомікі пераход на формы калектыўнай, кааператыўнай, індывідуальнай уласнасці (пры ўмове, што яна не прывядзе да эксплуатацыі чалавека чалавекам).

**— Вы лічыце, што чалавеку лепей, калі яго эксплуатуе дзяржава? Я нядаўна прачытаў у «Аргументах и фактах», што ў капіталістычных індустрыяльна развітых краінах рабочаму вяртаецца да 70 працэнтаў затрачанай ім працы, у нас жа...**

— У нас каля дваццаці... Я чытаў гэты артыкул. Хоць класікі марксізму далі, здаецца, вычарпальную характарыстыку эксплуатацыі чалавека чалавекам, але, бачыце, прайшло з таго часу больш за сто гадоў, свет, у тым ліку і капіталістычны, стаў іншы і трэба гэта ўлічваць. Мо сапраўды, лепей, каб нас не эксплуатавала дзяржава, якая не можа забяспечыць нам прыстойнага жыцця?

**— Пры сучасным узроўні тэхнікі, скажам, сельскагаспадарчай, селянін, той жа фермер, можа весці гаспадарку ўласнымі, *сямейнымі сіламі*. На трэцяй сесіі Вярхоўнага Савета СССР пры абмеркаванні закона аб зямлі акадэмік В. Ціханаў трапна заўважыў, што як толькі займеннік «мы» быў пастаўлены наперадзе займенніка «я», усё ў краіне пачало рабіцца не так, як гэта *павінна* рабіцца ў цывілізаваным грамадстве.**

— Як пісаў вядомы наш эканаміст Мікалай Шмялёў, будаўніцтва грамадства ўсеагульнай роўнасці — гэта будаўніцтва грамадства роўнасці па жабрацтве. Што грахі ўтойваць, абвешчаны намі асноўны пастулат сацыялізму — ад кожнага па здольнасцях, кожнаму па працы — застаўся фактычна на паперы. Выйсце адно — давесці да канца перабудову ў эканоміцы, на аснове новых законаў аб зямлі, уласнасці, карэнным чынам пераадолець адчужэнне чалавека ад сродкаў вытворчасці, незацікаўленасць яго ў выніках працы. У праекце платформы падкрэсліваецца, што рашэнне бягучых сацыяльна-эканамічных праблем непарыўна звязана з радыкальнай эканамічнай рэформай, якая мае на ўвазе замяніць камандна-размеркавальную сістэму з уласцівым ёй манапалізмам, безыніцыятыўнасцю і безгаспадарчасцю, ігнараванне інтарэсаў спажыўца — планава-рыначнай эканомікай, заснаванай на шматаблічнасці форм уласнасці.

**— Многія, ведаю, задаюцца пытаннем — ці не спазнілася партыя са сваёй платформай, ці зможа зараз пераадолець крызіс у сваіх радах, у грамадстве, у краіне?**

— Многія ўдзельнікі Пленума адзначалі, што Цэнтральны Камітэт партыі часта не паспявае за падзеямі, якія адбываюцца ў краіне, марудна рэагуе на іх. Што тычыцца платформы, дык ЦК, на маю думку, павінен быў выйсці з ёй на паўтара-два гады раней. Трэба цяпер вяртаць упушчанае. Думаю, менавіта гэта падштурхнула ўдзельнікаў Пленума наблізіць тэрмін правядзення XXVIII з'езда КПСС.

Я б сказаў, што нам, камуністам, вельмі замінае адсутнасць сапраўдных тэарэтыкаў партыі. Вучоныя-грамадазнаўцы абмяжоўваюцца спрэчкамі, як лепей інтэрпрэтаваць тое ці іншае выказванне класікаў марксізму. Мы ж чакаем ад іх выпрацоўкі дзейснага навуковага інструмента, метаду, які б дапамог знайсці выйсце з крызіснага становішча, у якім мы апынуліся.

**— Я не бяру іх пад абарону, але можна зразумець разгубленасць нашых грамадазнаўцаў перад тварам таго, што адбываецца зараз у сусветным камуністычным руху. Я не кажу ўжо пра мірныя і паўмірныя перавароты ў краінах сацыялістычнай садружнасці, у выніку якіх камуністы страцілі ўладу. Там не ўчора гэта пачалося, і рана ці позна такі фінал павінен быў наступіць. Але вось літаральна днямі прыйшла вестка аб тым, што самараспускаецца Італьянская камуністычная партыя, адна з самых вялікіх і актыўных на Захадзе. Ёсць пра што падумаць.**

— Камуністы павінны пазбаўляцца старых догм, старых стэрэатыпаў аб развіцці грамадства. Пра гэта недвухсэнсоўна гаворыцца і ў праекце платформы. Менавіта ў такім ключы павінна ісці перабудова ў нашай партыі.

**— Агульна прызнаны факт, што перабудова ў партыі адстае ад перабудовы ў духоўным і *палітычным жыцці грамадства*. Атмасфера свабоды, дэмакратыі і галоснасці не распаўсюдзілася на партыю.**

— Але ж менавіта КПСС заклікала краіну да перабудовы, узначаліла яе.

**— У адным доме мне нядаўна *давялося пачуць* такое пытанне: чаму партыя не ставіла пытанне аб перабудове, скажам, пры Брэжневе ці пры Чарненку? Ці мо камуністы тады былі ўсім задаволены?**

— Не, не былі задаволены. Па сабе ведаю, па таварышах па партыі. Але адсутнасць дэмакратыі ў самой КПСС спрыяла стварэнню абстаноўкі, пры якой кожная думка, якая не адпавядала афіцыйнай лініі, бязлітасна каралася. Дэмакратызацыі партыі — вось што нам, камуністам, не хапае ў першую чаргу. У час сустрэчы з М. С. Гарбачовым я, як адзін са старшынь Мінскага клуба «Камуніст», пры падтрымцы іншых таварышаў унёс прапанову прадугледзець у будучым Статуце партыі механізм, які б даваў магчымасць пярвічным партарганізацыям, а значыць, і радавым камуністам, уплываць на рашэнні, што прымаюцца ў вышэйшым эшалоне кіраўніцтва партыі. На той сустрэчы я выказаў і такую думку — у складзе будучага Прэзідыума ЦК партыі павінны абавязкова быць рабочыя, сяляне, прадстаўнікі інтэлігенцыі. Не для праформы, вядома, а для таго, каб у вышэйшым органе партыйнай улады былі людзі, якія добра ведаюць становішча спраў на месцах, настрой, патрэбы працоўных.

**— У тых жа «Аргументах и фактах» нядаўна былі надрукаваны статыстычныя дадзеныя аб структуры і складзе кіруючых органаў КПСС. Дык вось, аказваецца, каля 80 працэнтаў цяперашняга ЦК партыі складаецца з партыйных і дзяржаўных функцыянераў.**

— Гэта не ўпрыгожвае партыю. У склад кіраўніцтва КПСС павінны прыйсці свежыя сілы. Пераважна з нізоў.

**— Ваша думка, Эдуард Васільевіч, слушная, хоць я сумняваюся, што гэта выратуе партыю. Дзе гарантыя, што новыя *кіраўнікі праз нейкі* час не стануць такімі ж, як іх папярэднікі? Што тычыць іх рабоча-сялянскага паходжання, дык жа і сталінскае Палітбюро складалася не з графаў і князёў. Сам «геній усіх народаў», як вядома, быў сынам шаўца. Так што ўсе чыстыя *пралетарыі*. А што нарабілі? І потым, я лічу, што справа не толькі ў тым, які ён, «верх» партыі, — вялікую непрыязь, незадаволенасць народа выклікае частка партыйнага апарату, якая канчаткова абюракрацілася, «заэліцілася». На словах падтрымліваючы перабудову, яна на самай справе з усіх сіл тармозіць яе, асабліва калі бачыць, што перамены ў краіне пагражаюць асабістай кар'еры, што яны могуць наблізіць час, калі прыйдзецца адказваць за развaленую эканоміку, карупцыю, уласную хцівасць.**

**Нішто так, дарэчы, не абурае народ, як сацыяльная няроўнасць, прывілеі партыйнага «істэблішмента». У людзей накіпела, і яны не даруюць кавалка дэфіцытнага мяса, схаванага ў багажніку *чорнай* «Волгі» наменклатурнага работніка, як гэта было ў Чарнігаве, суперкамфартабельнага асабняка на беразе Волгі першага сакратара Валгаградскага абкома партыі, незаконна атрыманыя кватэры для сваіх дамачадцаў іншымі сакратарамі гэтага ж абкома, дачы, паляўнічыя домікі для наменклатуры ў іншых абласцях краіны. І ўсё гэта на фоне глабальнай нястачы, пустых паліц у магазінах, талоннай сістэмы, жабрацкіх пенсій і да т. п. Ці будзеш цяпер здзіўляцца «абласным рэвалюцыям», якія адбываюцца па ўсёй краіне? Не аднаго «тлустага ката» там выцягнуў народ з цёплых, утульных крэслаў.**

— Я тамашняй абстаноўкі не ведаю, як і вы, магу карыстацца толькі інфармацыяй, змешчанай у сродках масавай інфармацыі.

**— Вы лічыце яе недакладнай?**

— Не, але я супраць ажыятажу, які раздзьмухваецца вакол гэтых падзей.

**— Прывілеі, якімі карыстаецца партыйна-дзяржаўная эліта—рэальная з'ява, яна раз'-**

(Працяг на стар. 12).

**Падаляк Эдуард Васільевіч. 42 гады. Нарадзіўся ў Кіраўскім раёне Магілёўскай вобласці ў сям'і вясковых настаўнікаў. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. З 1972 года працуе на Мінскім аўтамабільным заводзе. Займаў пасады тэхнолага, інжынера-выпрабавальніка, намесніка начальніка цэха, намесніка генеральнага дырэктара. Два гады назад абраны сакратаром парткома МАЗа. З'яўляецца таксама старшынёй савета сакратароў партарганізацый аб'яднання «БелаўтаМАЗ». Удзельнік лютаўскага Пленума ЦК КПСС.**

Алег ЛОЙКА

# НАВУКА НАВУК — ФІЛАЛОГІЯ



**Навукай навук называлі філалогію ў сярэдневякоўі. Тое даўно ўжо забылася, бо і філасофія *аб'яўлялася навукай навук,* а ў часы культу «Гісторыя ВКП(б)», рэдагаваная І. В. Сталіным, на тое прэтэндавала... Ды і сёння прэтэнзія на «навуку навук» усё яшчэ можа выклікаць пярэчанне. Тым не менш — насуперак усім пярэчанням — навукай навук аб'яўляйся сёння, філалогія, бо такой навукай ты павінна стаць, бо без ваяўнічасці ты і аказалася патаптанай адміністрацыйна-каманднай сістэмай, як і дагматычным мысленнем, як і вульгарным сацыялагізмам — спадручнымі Сістэмы. Мляўкасць *філалогіі стала прычынай яе другаснасці,* уступчывасці тэхнарыям, верхаводству іх у атмасферы грамадска-культурнага жыцця часу НТР. *Уступкі гэтыя прывялі да найвялікшых* страт — перш за ўсё ў галіне духоўнасці. Між тым сёння справы філалогіі — не проста акадэмічныя, а грамадска-культурныя, нацыянальна-адраджэнцкія.**

ШТО, АДНАК, у XX стагоддзі адсунула гуманітарныя навукі, у тым ліку і філалогію, на задні план? Найперш рэвалюцыі ў навуцы — у фізіцы, біялогіі, астраноміі. Спробы рэвалюцыі ў вобласці літаратуры, якія былі звязаны з аднаўленнем класічнага, гарманічнага мастацтва слова, з мастацтвам мадэрнізму, усялюдскага прызнання ёй не далі. Перад здзіўляючымі поспехамі, звязанымі з адкрыццём законаў адноснасці і таямніцаў ядра, квантавай тэорыі, кібернетыкі, перад цудамі генетыкі, перад з'яўленнем радыётэлескопа, які адкрыў сто мільярдаў новых Галактык, класічная літаратура і філалогія пачалі здавацца архідапатопнымі з'явішчамі. І што з таго, што яшчэ А. С. Пушкін у сваім XIX стагоддзі пісаў: «Стагоддзе можа ісці сабе наперад, навукі, філасофія і грамадзянскасць могуць удасканальвацца і змяньвацца, — ды паэзія застаецца на адным месцы. Мэта яе адна, сродкі тыя ж...» XX стагоддзе да «нерэвалюцыйнай» філалогіі астывала пачуццямі і ўвагай усё больш і больш.

У нашай краіне ва ўмовах найвялікшай сацыяльнай рэвалюцыі — пры раппаўскіх запатрабаваннях пралетарскасці ў літаратуры як нібы вышэйшай формы яе рэвалюцыйнасці, пры скідванні з карабля сучаснасці Пушкіна, Купалы, Коласа, Багдановіча, пры суцэльнай кан'юнктурнай палітызацыі паэтычнага слова, якая расквітнела пры кульце асобы — адносіны да філалогіі, да «чыстай» гуманітарнасці, вядома ж, зноў падупалі. Галоўнай задачай ставілася змена сацыяльных абставін, непасрэдныя ж сродкі ўгрунтавання духоўнага свету чалавека ў іх «чыстым», агульначалавечым выглядзе, адным з якіх з'яўляецца філалогія, ігнараваліся. Пры гэтым сваю ролю пастаянна здзяйсняла і НТР — навукова-тэхнічная рэвалюцыя. Нездарма паэт сказаў:

**Что-то лирики в загоне,**
**Что-то физики в почете.**

Сёння — пасля Чарнобыля, пасля экалагічных катастроф, якія коцяцца па зямлі, фізікі ўжо не ў тым «пачоце». Але і лірыкі, як былі, застаюцца пасынкамі грамадства, хоць яно пакутуе ад эканамічных нягод, крызіснага стану ў прамысловасці, у сельскай гаспадарцы, у перабудове палітычна-дзяржаўных асноваў краіны. Па-ранейшаму надзея на ўсё, што хочаце, толькі не на «лірыку»: на рэформы ў прамысловасці і апараце, у эканамічнай сферы і чыгуначным транспарце і г. д. І як тут даказаць, што не другаснаю яна павінна быць, а першаснаю?!

Трэба сказаць, што ўжо ў застойны час актыўныя сілы гуманітарных навук, якія разумелі і ўпадак і славу філалогіі, і яе ролю, і яе будучыню, здольвалі дастаткова заяўляць пра сябе. Я тут маю на ўвазе, у прыватнасці, выступленне акадэміка М. П. Аляксеева, які ў часопісе «Неделя» некалі пісаў: «Філалогія як ніякая іншая навука служыць збліжэнню людзей. Яна дазваляе бачыць і адчуць мінулае як суперажыванне, як сапраўдную рэальнасць. У ёй можна знайсці ключ да разумення чалавека і яго разумовага жыцця ў любую гістарычную эпоху». Усё гэта — так.

Справе інтэрнацыяналізацыі — збліжэнню людзей — служыць філалогія і справе нацыянальнага самасцвярджэння народаў. У ёй сапраўды ключы да разумення чалавека, гісторыі і сучаснасці. Але — галоўнае — у ёй ключы да сапраўднага гуманістычнага ўзвышэння чалавека, народа, грамадства — узвышэння, якога так сёння бракуе нам, — кожнаму асобнаму чалавеку, і кожнай асобнай нацыі, і ў цэлым нашаму грамадству. Філалогія як змясцілішча першапрыярытэтных маральных каштоўнасцяў людства, — у ёй паратунак ад бездухоўнасці, амаральнасці, злачыннасці. У сярэдневякоўі яшчэ ератыкі гаварылі, што ў іх два багі — Хрыстос і філалогія. Сёння на тых, хто не верыць у Хрыста, можа ўздзейнічаць толькі адзін бог — філалогія. Прычым, яна не толькі фактар павышэння духоўнасці, — не толькі!..

Мы зараз усё часцей ад сродкаў інфармацыі даведваемся пра тое, як рост прамысловай вытворчасці ў развітых краінах свету напрамую залежыць менавіта ад росту гуманітарнага патэнцыялу людзей, занятых у сферы вытворчасці. У ЗША зараз на шэрагу прадпрыемстваў толькі 20% у кіраўніцтве займаюць інжынеры, а 80% сярод упраўленцаў — людзі гуманітарных прафесій. Тое ж — на прадпрыемствах Японіі. А прафесійная падрыхтоўка інжынерных кадраў у многіх краінах Захаду ўжо даўно прадугледжвае двухгадовую вышэйшага профілю базавую філалагічную падрыхтоўку, — іншымі словамі, два гады інжынер вывывучае філфакаўскія прадметы, перш чым брацца за асваенне сакрэтаў інжынернай прафесіі. Відаць, у гэтым і ёсць на сёння рэальная мерка ўвагі сучаснага цывілізаванага свету да гуманітарных навук. Перабудова нашага грамадства ў гэтай сувязі, зразумела, не можа адбыцца без радыкальных змен у адносінах да гуманітарнай сферы. Змены гэтыя павінны адбыцца на ўсіх узроўнях — на агульнаадукацыйным у сярэдняй школе, на прафесійнай падрыхтоўцы гуманітарыяў у ВНУ, у цэлым ва ўсіх слаях і праслойках грамадства рэспублікі.

У ГЭТАЙ СУВЯЗІ найбольш карэнны пералом патрэбен школе, якую найперш трэба вывесці з-пад дзеяння закона аб усенавучы, які па сутнасці прывёў да прафанацыі ў нашым грамадстве ўсеагульнай сярэдняй адукацыі як такой. Яна ў нас ёсць дэ юрэ і яе няма дэ факта. Ёсць на паперы, няма — рэальна, бо рэальна ў школе ідзе завышэнне ацэнак, падтасоўка іх, падцягванне да атэстата і выпіхванне навучэнца з «ліпавым» нярэдка атэстатам за парог сярэдняй школы, а з VIII класа — у ГПТВ. Галоўнае — прызнаць, што закон аб усенавучы — заўчасны, ненавуковы, валюнтарысцкі. Ён — непедагагічны, ён робіць з настаўніка заганяльшчыка навучэнца ў школу, схіляе да падтасоўвання ацэнак, якое адбываецца на вачах усяго класнага калектыву, да зніжэння патрабавальнасці. Ён не дае быць настаўніку настаўнікам: патрабавальным, творчым, мэтанакіраваным — дзеля выхавання сапраўды здольных, галавастых, перспектыўных дзяцей. І тут не трэба пра абразу менш таленавітых, менш здольных! Не трэба! Лес няроўны, і людзі—няроўныя. Даць максімум ведаў кожнаму школьніку па яго здольнасцях — вось што павінна стаць адзіным лозунгам у школе.

Дасюль, на мой погляд, рэальнай рэформы ў школе не адбылося. Каб яна адбылася, у ёй найперш трэба вярнуць шмат чаго са страчанага ёю— асабліва ў галіне гуманітарнай адукацыі, якая ў рэспубліцы даўно ўжо ў крытычным стане, — ва ўсякім разе гадоў з 60-х. Тады ў ёй і ўсталявалася структура так званай політэхнізаванай адукацыі. Зірнём жа ў вучэбны план пачатковай, васьмігадовай і сярэдняй школ з рускай мовай навучання за 1965—1966 гады (з той пары па сутнасці большасць школ рэспублікі пачалі працаваць менавіта па гэтым вучэбным плане). Што ж мелася ў ім? На тыдзень для вучняў V—XI класаў усяго навучальных гадзін было 239. З іх на гуманітарныя дысцыпліны прыпадала 77, на дакладныя і прыродазнаўчыя — 137, на політэхнічныя— 25 гадзін. У працэнтах на гуманітарныя дысцыпліны гэта складала 32,2; на дакладныя — 57,3; працоўныя — 10,5. Іншымі словамі, на ўсе гуманітарныя прадметы — гісторыю, літаратуры, замежную мову, грамадазнаўства, спевы — няпоўная адна трэць школьнага часу. Адна трэць! А ўласна на літаратуры — беларускую і рускую — колькі ж? Увогуле на літаратуры прападала 12% планавых гадзін, з іх на рускую літаратуру 8%, на беларускую — 3,8—4%.

Што ж з таго часу—за чвэрць веку — у гэтым сэнсе ў нашай сярэдняй школе змянілася? А мала што, бо накінутыя гадзіна-паўтары на тыдзень на беларускую літаратуру ў асобных класах у прынцыпе нічога не змянілі. Бо што сабой прадстаўляюць гэтыя мізэрныя дабаўкі, калі ўспомніць пра сапраўды разбойніцкі размах у скарачэннях па той жа самай беларускай літаратуры за дзесяцігоддзе з 1955 па 1965 год? Праграмай 1955—1956 гадоў на беларускую літаратуру ў VIII—X класах адводзілася 198 гадзін. Праграмай жа на 1965—1966 год на тое ж —154 гадзіны. На 44 гадзіны менш! А рэальна і на 124 гадзіны менш, бо былі за гэтае дзесяцігоддзе скасаваны ў VIII—X класах яшчэ і 80 гадзін на беларускую мову — на пісьмовыя работы.

Ой, як лёгка скарачалася!.. Ой, як цяжка вяртаць скарочанае! — толькі і прастогнеш тут. Ужо цэлыя тры пакаленні школьнікаў — 60-х, 70-х, 80-х гадоў па сутнасці абкрадваюцца літаратурай, абкрадваюцца гісторыяй, абкрадваюцца песняй і маляваннем. Школа застаецца дэгуманізаванай, без шырокай базавай асновы духоўнага, *маральнага* выхавання, якую могуць і павінны ёй даваць літаратура, гісторыя, музыка.

Можна было б і далей здзіўляць чытача літскарачэннямі ў школе — больш па прыватных момантах, хоць ці ж яны прыватныя, калі датычаць вывучэння творчасці першых народных паэтаў Беларусі ці сучаснай беларускай літаратуры? Няўжо за 22 гады свайго развіцця сучасная літаратура так змізарнела, што на адну трэць гадзін меней на вывучэнне яе стала адпускацца? Няўжо прэстыж класіка за той жа час у 3,5 раза ўпаў, што ўжо не 26 гадзін, а толькі 7 стала дастаткова, каб пазнаць вялікага Купалу?!

Прывядзём яшчэ дзве лічбы з праграм двух апошніх дзесяцігоддзяў, у якіх, як адпускалася, адпускаецца дзве гадзіны — на старабеларускую літаратуру, дзве — на кароткія звесткі пра беларускую літаратуру XIX стагоддзя. Уявіць цяжка, як гэта за дзве гадзіны сказаць вучню і аб «Слове пра паход Ігаравы», і пра Францішка Скарыну, Міколу Гусоўскага, і пра XVII—XVIII стагоддзі нашай літаратуры, багатыя на творы, імёны, багатыя зменлівымі эпохамі Сярэдневякоўя, Адраджэння, Рэфармацыі, Барока, Асветніцтва... А што можна сказаць за дзве гадзіны пра XIX стагоддзе, у якім В. Дунін-Марцінкевіч, і К. Каліноўскі, і Ф. Багушэвіч? А яшчэ ж і пра Адама Міцкевіча трэба сказаць, і пра філаматаў! Ці ж гэта сапраўды не прафанацыя вывучэння гісторыі роднай літаратуры?!

Рэформы патрабуе наша школа, рэформы і рэформы! Патрабуецца, на мой погляд, наступнае:

1) Абавязковае навучанне ў школе да 15 год (васьмігодка). Прыняцце закона аб выкарыстанні дзіцячай працы з 15 год (у сферы абслугоўвання са скарочаным рабочым днём). З 15 год той, хто не вучыцца, абавязкова працуе. Закон аб выкарыстанні дзіцячай працы ўключаецца ў Закон аб моладзі. Вярхоўным Саветам БССР зацвярджаюцца месцы дазволенай падлеткам працы, працяглассць іх рабочага часу, тарыфы аплаты.

Закон аб абавязковым працаўладкаванні падлеткаў, стварэнне сістэмы месц працоўнай занятасці падлеткаў будзе спрыяць агульнаму выхаванню моладзі, іх нармальнаму ўваходу ў грамадскае і матэрыяльна-стваральнае жыццё, папярэджваючы інфантыльнасць, утрыманства.

2) *Школа* двухступенчатая, г. зн. школа агульная (8 кл.), гімназія (9—11 кл.). Адмяняецца ўсенавуч. Васьмігадовая і *гімназійная адукацыя за кошт* дзяржавы; навучанне васьмігадовае абавязковае, але навучэнцы атэстуюцца па поспехах. Лепшыя — канчаюць поўнасцю з адпаведнымі атэстатамі, горшыя атрымліваюць пасля 8-гадовага навучання даведкі аб заканчэнні максімуму класаў, праграма якіх імі засвоена.

Выпускнікі васьмігодак прадаўжаюць вучобу ў гімназіях, педвучылішчах, тэхнікумах, СПТВ, рэалізуючы падрыхтоўку як гуманітарных, так і *інжынерна-тэхнічных* кантынгентаў будучых студэнтаў ВНУ.

У залежнасць ад адукацыйнага цэнзу паставіць аплату як моладзі, так і дарослых — па графах: незаконачанае агульнае (да 8 класаў); агульнае (8-гадовае); няпоўнае сярэдняе (да 11 класаў); няскончанае педвучылішчнае, педтэхнікумаўскае і г. д.; сярэдняе; закончанае вышэйшае (з новай пяціступенчатай парабалай росту зарплаты ў залежнасці ад заканчэння 1, 2, 3, 4, 5 курсаў ВНУ). Сам рост адукацыйнага цэнзу забяспечваць праз сістэму вячэрняй і завочнай адукацыі, зрабіўшы як першую, так і другую платнай.

Плата на вячэрняй і завочнай форме адукацыі ўводзіцца дзеля ўзняцця прэстыжу бясплатнага дзяржаўнага навучання ў сярэдняй школе, дзеля ўскоснага — з улікам матэрыяльнага фактара — стымулявання, з увядзеннем у свядомасць навучэнца, што калі ён не набудзе веды бясплатна, то мусіць за гэта плаціць.

РЭФОРМАЎ ЗАРАЗ ПАТРАБУЕ і філалагічная адукацыя ў ВНУ рэспублікі, у яе універсітэтах. Не тое, што яны не пачаліся: так, філалагічны факультэт Гродзенскага універсітэта ўжо па-новаму спрафіліраваны, займеўшы ў сваім складзе і «чыста» беларускае аддзяленне, і беларуска-польскае, — у залежнасці ад сітуацыі з нацыянальным складам Гродзенскай вобласці.

Але што мы маем у цэнтры, у Мінску—у сувязі з перабудовай ВНУ? Пакуль што зменаў ніякіх, бо як на астатковым уліку была філалогія, напрыклад, у БДУ імя У. І. Леніна, на такім жа і застаецца. Аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта застаецца па-ранейшаму як бы «за спіной» сваёй другой палавіны — аддзялення рускай мовы і літаратуры, якое з'яўляецца, па сутнасці, аддзяленнем для ўсесаюзнага студэнта, прэстыжнае гэтай сваёй «усесаюзнасцю». Веданне беларускай мовы і літаратуры студэнтаў рускага аддзялення БДУ імя У. І. Леніна не абавязковае, хоць большасць выпускнікоў яго працуе не далей, як у школах Беларусі. Выпускнікі ж беларускага аддзялення атрымліваюць роўнае права на выкладанне дзвюх літаратур і моў — і беларускай, і рускай. Так што тыя, што не трапілі на рускае аддзяленне, без аглядкі ідуць на беларускае, бо спецыялістамі па рускай літаратуры яны могуць стаць і там.

Бяды ў тым, на першы погляд, няма: шырокапрофільнасць філалагічнага факультэта можна адносіць і да яго станоўчых вартасцяў. І ўсё гэта было б так, каб не тая сітуацыя, якая склалася ў рэспубліцы з беларускай мовай і ўвогуле з філалогіяй. Менавіта сама гэтая сітуацыя прымушае ставіць пытанне востра і гаварыць аб патрэбе для рэспублікі ў яе флагманскім універсітэце, якім з'яўляецца першы ў Савецкай Беларусі Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна, факультэта беларускай філалогіі, а не проста філалагічнага факультэта. Гэта ж дзіўна, што ў Варшаўскім універсітэце ёсць кафедра беларускай філалогіі, ёсць аддзяленне беларускай філалогіі — цалкам адпаведна спрафіліраванае, а ў нас — няма.

Факультэт беларускай філалогіі найперш патрэбен для ўзняцця прэстыжу гуманітарных навук у рэспубліцы, прэстыжу беларускай мовы і літаратуры. А пачынаць трэба з таго, каб, па-першае, выпускнікі філфака БДУ імя У. І. Леніна маглі вывучаць і праблемы так званага білінгвізму (выпускнікам рускага аддзялення цяпер гэта не пад сілу, бо ведаў па беларусістыцы ім відавочна не хапае). Па-другое, філолаг у Беларусі сёння павінен мець падрыхтоўку ва ўсіх галінах так званай прыкладной філалогіі, г. зн., ён павінен быць падрыхтаваны, каб стаць карэктарам, і рэдактарам, і перакладчыкам, і тэкстолагам, і бібліёграфам — пры веданні і спецыфікі кожнай з гэтых прафесій, і беларускай мовы і культуры. У рэспубліцы дасюль ніхто спецыяльна не рыхтаваў ні рэдактараў, ні карэктараў, — імі ж звычайна самі па сабе, «стыхійна» становяцца ў большасці тыя ж выпускнікі філфака. Па-трэцяе, факультэт беларускай філалогіі павінен, нарэшце, узначаліць і беларускую славістыку, германістыку, раманістыку — навесці масты ў шырокі свет еўрапейскай і сусветнай філалогіі, заснаваць школы беларускай літуаністыкі, раманістыкі, германістыкі, санскрытыкі, латыністыкі і г. д. Мы дасюль будзем правінцыяльным універсітэтам, пакуль не ўздымем у ім філалогію на новую вышыню —усеславянскую, усееўрапейскую.

Такім чынам, факультэт беларускай філалогіі БДУ імя У. І. Леніна накіруецца на развіццё ўласна беларускай філалогіі, да якога цяперашняе яго беларускае аддзяленне спецыяльна ніяк не рыхтуе. Тут пачнецца такое вывучэнне рускай мовы і літаратуры, якое патрэбна менавіта беларускай філалогіі, і кончыцца тое, якое дасюль рабіла філфак пастаўшчыком нявест з вышэйшай адукацыяй на ўсесаюзную арэну.

Гэтая ж праблема мае і свой іншы аспект. Нельга сказаць, што ў нас у рэспубліцы ўвогуле няма сёння латыністыкі, ці германістыкі, ці раманістыкі. Увогуле — ёсць, бо ёсць у нас і спецыяльны інстытут замежных моў, дзе студэнтаў навучаюць і вельмі значныя германісты і раманісты. Але ў сваім адрыве ад беларускасці Мінскі інстытут замежных моў прывёў рэспубліку да найвялікшага дэфіцыту з перакладчыцкімі кадрамі. Развіццё на факультэце беларускай філалогіі германістыкі, раманістыкі і г. д. з часам напэўна ж здыме і праблему з дэфіцытам беларускіх перакладчыкаў з моваў свету.

Факультэту беларускай філалогіі, думаецца, стане ў моц мець пры сабе і творчае аддзяленне, якое пэўным чынам заменіць адсутны ў рэспубліцы Літінстытут з яго задачамі падрыхтоўкі прафесійных пісьменнікаў. На такім аддзяленні можна будзе згрупаваць як секцыі па жанрах— паэзіі, прозе, драматургіі, так і перакладчыцкую.

І ЯШЧЭ АБ АДНЫМ нельга змаўчаць, гаворачы аб лёсе нацыянальнай філалогіі,— гэта аб сённяшніх праблемах з падрыхтоўкай у ёй кадраў вышэйшай кваліфікацыі — кандыдатаў навук, дактароў навук. Сістэма гэтай падрыхтоўкі склалася не ў лепшы час і цалкам укшталтавалася ў залежнасці ад яго як адміністрацыйна-цэнтралісцкая — часам нават з грубымі парушэннямі асноў навуковай этыкі, не кажучы ўжо аб яе забюракратызаванасці. Больш таго: гэтая сістэма мае ў сабе зняважлівыя бакі для гонару нацыянальнай навукі, бо ў сваім цэнтралізме змяшчае недавер да навуковых кадраў рэспублікі. І гэта асабліва відно на гуманітарных навуках, асабліва па адносінах з цэнтрам — з ВАК (Вышэйшай Атэстацыйнай Камісіяй) — літаратуразнаўства і мовазнаўства. Задаю пытанне: па беларускаму фальклору, па знаццю беларускай мовы ці беларускай літаратуры, дзе могуць скласціся найбольш кампетэнтныя спецыялісты? У Маскве — галоўным асяродку навукі ў краіне —былі, ёсць і будуць, вядома ж, буйныя спецыялісты ў беларусістыцы. І ўсё ж яны ў Маскве — адзінкі, а ў рэспубліцы іх — шэраг шэрагаў. Ды гэтыя шэрагі шэрагаў ужо каторае дзесяцігоддзе пастаўлены ВАКам менавіта ў залежнасць ад адзінак, што жывуць у цэнтры.

Заўважым, што цэнтральнае рэцэнзаванне — гэта яшчэ паўбяды, хоць сам фактар падобнага рэцэнзавання — гэта ўжо пастаўлены пад сумненне ўзровень кампетэнцыі нацыянальных кадраў рэспублікі. Бяда — і то да самага апошняга часу, найвялікшая — у іншым. Дасюль, нягледзячы, што ВАК перабудоўваўся, што адміністрацыйна-каманднаму звярхніцтву перабудова дае кожны дзень бой, — беларускі літаратуразнавец, які хоча стаць кандыдатам ці доктарам філалагічных навук, напісаўшы сваю навуковую працу на роднай мове, каб яе абараніць, каб прадставіць яе ў ВАК, павінен абавязкова перакласці яе на рускую мову. Чаму дзеля кантролю дысертацыю трэба з беларускай перакладаць на рускую, калі любы славіст, будучы сапраўды вучоным, ведае ці лёгка можа зразумець любую з усходнеславянскіх моваў? Зазначым, што прэтэндэнту на кандыдацкі дыплом трэба перакладаць 150—170 старонак машынапісу, а на доктарскі — то ўжо не менш 400—500 старонак. Працы —на гады паўтара-два. Паўтары-два гады выкідаць на марную работу! Вось на што асуджае нацыянальную філалогію вакаўская цэнтралізацыя, дасюль ніхім не асуджаная, дасюль поўнаўладная!

А між тым у Беларусі ёсць свой цалкам аўтарытэтны навуковы цэнтр — Акадэмія навук, членамі якой з'яўляюцца і першыя зоркі ў сусветнай матэматыцы, у фізіцы, у біялогіі. Тым больш Акадэмія навук Беларусі першазоркавая сваімі аўтарытэтамі ў галіне беларускага савецкага літаратуразнаўства, мовазнаўства, гісторыі, фалькларыстыкі і этнаграфіі. Чаму ж тады атэстацыя кандыдатаў і дактароў навук не можа і не павінна праводзіцца тут, у нас, у Акадэміі навук БССР, яе высокімі вучонымі саветамі?..

СПРАВЫ БЕЛАРУСКАЙ ФІЛАЛОГІІ маюць яшчэ і свой міжнародны аспект. І тут трэба звярнуць увагу на два моманты, з якіх прэстыжны як першы, так і другі. Першы звязаны з арганізацыяй у рэспубліцы, пры БДУ імя У. І. Леніна, штогадовага летняга семінара для замежных грамадзян, якія цікавяцца беларусістыкай. Ці ў Варшаве, ці ў Празе, ці ў Югаславіі ў Любляне — скрозь ёсць падобныя семінары роднасных па мовах і культурах краін. Павінен, нарэшце, такі ж семінар з'явіцца і ў нас, і ён будзе яшчэ адным рэальным рухавіком у справе пашырэння і паглыблення беларускай філалогіі, у справе паднясця яе ўсесаюзнай і ўсясветнай прэстыжнасці.

Другі момант гэтай справы звязаны з традыцыяй, якая мае свае карані ў сярэдневяковых універсітэтах, а на сёння, на жаль, прызабытая, хоць можа і ў сучасных умовах вельмі хораша спрыяць развіццю культурнага яднання народаў у свеце. Я маю тут на ўвазе наданне універсітэтамі ганаровых званняў вучоным іншых краін і кантынентаў. Так, у Канадзе зараз жыве і працуе праправраўнук нашага беларускага першадрукара, таксама, як і яго продак, двойчы доктар навук — біялагічных і філасофскіх — Станіслаў Скарына. Дык няўжо не ў славу Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна будзе мець сваім ганаровым доктарам навук праправраўнука Ф. Скарыны? Ці не дастойныя такой жа высокай ганарацыі нашым БДУ імя У. І. Леніна і такія прафесары, як Вацлаў Жыдліцкі з Пражскага Карлава Універсітэта, Хасо Бауман з Йенскага універсітэта імя Ф. Шылера, Аляксандр Барчшэўскі з Варшаўскага універсітэта, якія ўжо больш чвэрці стагоддзя супрацоўнічаюць з нашым універсітэтам?

Думаецца, што дзеля ўмацавання сувязяў беларускай навукі ў шырокім свеце гэта будзе справай і надзённай і важнай. Бо, зрэшты, сёння ўсё, што датычыцца дзейснага ўзняцця гуманітарных навук, у тым ліку і філалогіі, на пачэсны покуць у нашым доме, у нашым грамадстве, — усё гэта ніяк не можа не быць справай і самай надзённай, і самай важнай.

# Прыняты ў Саюз пісьменнікаў БССР



**БАРОЎСКІ** Анатоль Мікалаевіч. Празаік, нарысіст. Нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Крушнікі Мазырскага раёна. Скончыў Мазырскі педагагічны інстытут імя Н. К. Крупскай (1967). Уласны карэспандэнт газеты «Чырвоная змена» па Гомельскай вобласці.

Член КПСС.

Літаратурную працу пачаў у 1964 годзе.

Друкаваўся ў калектыўных зборніках, аўтар кнігі прозы «Каліна пад акном» (1987).

**МАЛЬЧЭЎСКАЯ** Яўгенія Еўдакімаўна. Паэт, празаік. Нарадзілася ў 1949 годзе ў вёсцы Замошша Чашніцкага раёна. Скончыла Бабруйскі тэхнікум гумавай прамысловасці (1969) і філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1978). Працуе выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў Віцебску.

Літаратурную працу пачала ў 1975 годзе.

Адзін з аўтараў калектыўнага зборніка «Нашчадкі» (1979), выдала кнігу паэзіі «Залежнасць» (1989).

**СІЎЧЫКАЎ** Уладзімір Мікалаевіч. Перакладчык, празаік, паэт. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў горадзе Жодзіне. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя А. Глебава (1977) і філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1986). Адказны сакратар часопіса «Бярозка».

Літаратурную працу пачаў у 1982 годзе.

У перакладзе У. Сіўчыкава выйшаў раман Н. Думбадзе «Закон вечнасці» (1989). Аўтар прадмовы, складальнік біяграфічных даведак, а таксама каментарыя, перакладчык твораў у «Анталогіі грузінскай паэзіі» ў двух тамах (1989). Адзін з аўтараў калектыўных зборнікаў — прозы «Жнівеньскі праспект» (1989), паэзіі «Лагодны прамень раніцы» (1989).



**СОКАЛАЎ-ВОЮШ** Сяргей Анатольевіч. Паэт, бард. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў вёсцы Астроўшчына Полацкага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1984). Загадчык літаратурнай часткі лялечнай трупы Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа.

Літаратурную працу пачаў у 1975 годзе.

Друкаваўся ў калектыўных зборніках, выдаў кнігу паэзіі «Кроў на сумётах» (1989).

**ТУРБІНА** Любоў Мікалаеўна. Паэт, перакладчык, літаратуразнавец. Нарадзілася ў 1942 годзе ў Ашхабадзе. Скончыла фізфак Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1964) і Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве (1980). Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР.

Літаратурную працу пачала ў 1974 годзе.

Выдала кнігі паэзіі «Улица детства» (1981) і «Город любви» (1988), брашуру «М. Лермантаў і сучасная беларуская паэзія».

**ТРАЯНОЎСКІ** Алесь Пятровіч. Перакладчык. Нарадзіўся ў 1925 годзе ў вёсцы Уздымач Слуцкага раёна. Скончыў Маскоўскі гісторыка-архіўны інстытут (1959).

Член КПСС.

Літаратурную працу пачаў у 1962 годзе.

У перакладах А. Траяноўскага выйшлі: анталогія паэзіі лужыцкіх сербаў «Там, дзе Шпрэвя шуміць» (1969), анталогія кашубскай паэзіі «За даляглядамі край Сталемаў» (1980), аповесць Ю. Брэзана «Чорны млын» (з верхнелужыцкай, 1984). Аўтар шэрагу перакладаў у калектыўных зборніках і часопісных публікацыях.

**ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ**

# Сцяжынамі Кандрата Крапівы

Ладную бібліятэчку фотаальбомаў, якія расказваюць аб жыцці і творчасці вядомых беларускіх пісьменнікаў, выпусціла выдавецтва «Беларусь». У ёй прадстаўлены Іван Мележ і Васіль Быкаў, Аркадзь Куляшоў і Алесь Адамовіч, Пятрусь Броўка і Максім Танк... Чарговы альбом бліжэй знаёміць чытача з патрыярхам нацыянальнай літаратуры, вядомым вучоным Кандратам Крапівой.

Складальнікам і аўтарам тэксту Сцяпанам Лаўшуком вытрыманы традыцыйны для гэтай серыі прынцып. У артыкуле «Вялікі працаўнік» (тэкст пададзены па-беларуску і ў перакладзе на рускую мову) згадваюцца найбольш значныя эпізоды з біяграфіі К. Крапівы, гаворыцца пра яго шматгранную мастацкую і навуковую дзейнасць, падкрэсліваецца месца творчасці байкапісца і драматурга ў кантэксце савецкай літаратуры.

Змешчаны выказванні пра творчасць К. Крапівы яго паплечнікаў. У прыватнасці, эпіграфам да артыкула ўзяты словы Янкі Брыля: «Ёсць людзі, якія маюць як быццам не адно жыццё, не адну біяграфію, — жыццё іх упрыгожвае многія тысячы жыццяў, біяграфій!




Дзелячыся з мноствам людзей багаццем сваёй душы, чалавек тады не бяднее, а наадварот— узбагачаецца сілай народа, яго ўдзячнасцю і любоўю. Такім чалавекам — сапраўдным сынам народа — мы называем і Кандрата Крапіву».

Прыводзяцца асобныя творы пісьменніка і, зразумела, багаты ілюстрацыйны матэрыял. Каляровыя і чорна-белыя здымкі, выкананыя У. Крукам, В. Харчанкам, А. Дзмітрыевым, узнаўляюць родныя К. Крапіву мясціны, знаёмяць са спектаклямі, пастаўленымі па яго п'есах, паказваюць пісьменніка ў час сустрэч з калегамі. Адбываецца сапраўднае падарожжа сцяжынамі, якімі прайшоў народны пісьменнік Беларусі Кандрат Крапіва.

А. КУНЦЭВІЧ.

Ніна МАЦЯШ



## Пяць галасоў

— Каб збавіцца мне ад душэўных ран,
Забыць мне трэба пра Афганістан,
Пра славу і няславу ў той вайне,
Пра маладосць у цынкавай труне.

— Каб збавіцца мне ад душэўных ран,
Забыць мне трэба пра чарнабылян,
Кім сталі ўсе мы на зямлі айчыннай
І выміраем ад жуды злачыннай.

— Каб збавіцца мне ад душэўных ран,
Забыць мне трэба пра ганебны зман.
Якім людзей аблутваць не зракліся
Халопы нават і пасля Тбілісі.

— Каб збавіцца мне ад душэўных ран,
Насыпаць трэба волатны курган
На ўсё, што знаем пра сябе сягоння,
Пра нашы Курапаты і Пагоню.

— На волатны курган сядаў груган.
Хто ўмёр — маўчаў,
Жывы — нямеў ад ран.
А гнеў патрабаваў крыві за кроў...
Крый бог нам абяспамяцець ізноў!

●

Любоў мая, укрый мяне
Хоць позіркам замілаваным:
Хай зноў табой паратаваная,
Душа хоць трохі адпачне.

Абсурдны свет, аблудны свет
Агідзеў да ванітавання:
За ўладу подлае змаганне —
І сцяг яго, і запавет.

І гінуць праўды светлячкі
Пад выштукаваным абцасам,
І людзі з цемрай зноў сам-насам,
І ўжо, здаецца, на вякі...

Укрый мяне, любоў мая,
Хоць позіркам замілаваным,
Каб, зноў табой паратаваная,
Жыццё як ёсць прымала я.

## Мароз на двары

Ці не холадна табе, мама?
Мароз на двары.
А ты ўсё трымаеш
у далонях сваіх
некалькі каласкоў,
А ты ўсё трымаеш
у далонях сваіх
некалькі васількоў,
Каторы ўжо год
іх
да грудзей прыхінаеш.
Але гэта ніколечкі не кранае
Сурова-сцярожкага крыжыка над тваёй
галавою.
Праз маўклівую, праінелую хвою
Шматочак неба ўзіраецца,
Як вусны твае —
каторы ўжо год!.. —
усміхаюцца
Ўсё адной і той жа ўсмешкаю.
А я
Усё ліпею на гэтым
Ужо нясцерпна няўтульным узмежку
Між марозным буднем маім
І тваёй лагоднай імглою.
Баюся, што гэта ты
Мяне тут — навошта? —
Так доўга, так доўга трымаеш.
Хачу быць з табою.
Холадна мне, мама.

## Усё паўтараецца

Усё паўтараецца — з кожным і ў
кожным?
Дзяўчынка, мой след абміні,
Прайдзі муравой, а не колкаю пожняй, —
Не хмарцеся, юныя дні!

Ды ўсё паўтараецца... Не прамінае.
І таўры на лёсах гараць:
Даецца жыццё нам, каб радасць з
адчаем
Вучыліся мы прымірыць.

Каму ж удаецца ў адпушчаным часе
Наблізіцца хоць на паўкроку да ясі?

## Камень

Зласліва кінеш камень ў крыніцу —
І зразу скаламуціцца вада,

## Палюддзе

Шарая гадзіна, а вёсачка — як вымерла. Не рыпне калодзежны калаўрот, не рыкне карова, не бразне дайніца. І раптам на вуліцу выкочваецца сабачаня і падымае такі лямант — хоць затыкай вушы. Спыняюся, кажу сабачаняці:

— Сціхні! Станеш сабакам — набрэшашся!..

— А ў нас няма на каго і брахнуць, — чую аднекуль з-за веснічак. — Абязлюдзілі вёсачку!..

Наўгад, не ведаючы яшчэ каму, даю «вечар добры» і кажу пра сваё:

— Мо на пастой узялі б?

— А чаму не ўзяць? — чуецца ўжо весялейшае. — Хата пустуе!

У хаце пахла аўчынай, варанай бульбай. З кафлянкі на сцяну між акон біў квадрат святла. Гаспадыня, заўважыўшы чужога, кінулася рукавом выціраць лаву, прыгаворваючы:

— Вы ўжо звіняйце... Мы, гэтае самае, тожа... У бежанцы збіраемся... Толькі куды ехаць? На голо мейсца? І дзе зарука, што і там не сыпане тая радзіяцыя...

— Перастань! — перапыніў яе гаспадар, наблізіўся да печкі, прыпаліў лучыну (у вёсачцы абрэзалі электрычнасць). — Зямля не без добрых людзей. Нейк будзе.

Пастаяў сярод хаты, даў разгарэцца лучыне, а тады скамандаваў:

— Адлівай, баба, салёнікі! Шкварку нясі. І гурочкаў...

Паслалі мне на лаве, насупраць печкі-кафлянкі.

Ляжу, а думкі ткуцца, ткуцца. Нялёгкія думкі. Пра лёс людзей нашых. Пра лёс зямлі. Сілюся адагнаць іх, заснуць, а не ўдаецца.

— А мо застамося? — чуецца з-за перагародкі прыглушаны голас гаспадыні. — У мамкі дзяцей гадаваць мем.

— Скажаш! — не пагаджаецца гаспадар. — Там школкі няма.

— Градаў шкода, — зноў падае голас гаспадыня. — Такіх не мецьмем.

— Грады, грады!.. Адчапіся. Паспаць дай. Заўтра ўставаць рана...

Людскі клопат вярэдзіць душу. Людская бяда сціскае сэрца. Хочацца суцешыць, абнадзеіць. Але не знаходжу слоў.

...Падхапіўся на досвітку.

Палалі дровы ў хлебнай печы. Гаспадыня абірала бульбу. Гаспадар сядзеў на зэдліку, пры кафлянцы, і адчайна курыў.

Пачынаўся новы дзень.

— Гарбата? — здзівілася жанчына, але прысела на камень, толькі па той бок цяпельца. Побач абаранкам скруціўся яе сабачка.

— А я першае лецейка як старажу, — быццам працягвала пачатую яшчэ некалі размову незнаёмка. — А то ўсё ў даярках хадзіла. Ды рукі ў рамёнах сталі балець і яшчэ тут, у пальцах.

Памаўчала, паправіла ляскаю агарак і стала мяне засыпаць пытаннямі:

— То адкуляка будзеце? Падарожнічаеце? Адны? Мясціны тутэйшыя аглядаеце? Ну і як вам мясціны нашыя?..

— Каб на іх ліха! — роспачна сказала яна. — Псоты нарабілі зямельцы, а вінаватага і не знойдзеш...

І паднялася, і стала ўжо нібы вініцца:

— Нагаварыла тут, набалбатала... І камяні ўжо спацелі... Бегчы трэба. А то, чаго добрага, бычкі...

Пайшла, цяжка абапіраючыся на ляску. Следам каціўся белы сабачка.

...І доўга яшчэ над прытухлым цяпельцам вісеў кацялок. Доўга яшчэ перамаўляліся перапёлкі. У небе не пераставаў дазорцам хадзіць малады месяц.



Яраслаў Пархута

# Кароткія апавяданні

## Ноччу ля крушні

Сутоньвалася, вячэрняя стынь бралася апасці на зямлю, а я ніяк не мог упадабаць зручнага месца. У лажку, адразу за мастком, спыняцца не выпадала: заядуць камары. Пры развілцы дарог — таксама. Бо з вопыту ведаў: на скразнячку пад раніцу будзеш дрыжыкі прадаваць. І калі трошкі пазней натрапіў на прыдарожную крушню, — узрадаваўся: лепшага прыпірыска не знайсці.

Праз нейкія паўгадзіны ў мяне было ўсё як трэба: над цяпельцам закіпаў кацялок, паблізу перамаўляліся перапёлкі, пляскаты камень шчодра аддаваў плячам сабранае за дзень цяпло, пры небакраі дазорцам хадзіў малады месяц.

Думна і добра было. І раптам:

— А хто ета атабарыўся ў нас? Каму ета не спіцца поначы?

Азіраюся і ў святле маладзіка бачу жанчыну, апранутую ў шэрую фуфайку. Гурбачкай снегу ля яе ног бялее сабачка. Жанчына ямчэй абапіраецца на ляску і нібы апраўдваецца:

— А я ета ўгледзела агеньчык... Бычкоў, думаю, халера не возьме, яны ў загарадцы, а я, думаю, падскочу, пагляджу...

— Сядайце! — радуюся жывой душы. — Хутка гарбата заварыцца.

Бляклае святло месяца лілося справа, злёгку акрэсліваючы абрысы яе твару. У чорных вачах раз-пораз біўся матылёк агню. Над галавою павісла аблачынка. Як німб. На нейкую хвіліну падумалася: дай вось цяпер ёй на рукі немаўля — і перад табою сама боска матка з іконы! Такі ж нахіл галавы. Такая ж засяроджанасць у паглядзе...

Ды яна раптам пакінула засыпаць мяне пытаннямі і ўзялася абурацца:

— А ніц не засталося ў нас ад харраства колішняга! Паглумілі. Там вунь, — паказала ляскаю некуды за крушню, — паблізу масточка, вёсачка баброва стаяла. Хатак з пяць.. У вірку ўюны, што кілбачы, вадзіліся... Іншы раз на беражок мядзведзь аднекуль прыходзіў — маліны пасусліць... Качак было таксама. Балоцейка альховінкі перабягалі. У гайках зубровіца расла. У барках сосны з небам размаўлялі. А цяперака? Рачулку ўкралі, лес размахлярылі, балоцейка раскалупалі — і па вясне ў нас толькі буравеі чорныя гаспадараць. А я ж помню той кляты дзень, як начальнікі прыехалі, слупоў панаставілі, экскаватараў панапрыганялі. Тата мой выскачыў з хаты (жылі мы тады недалечка адсюль, на хутарку), выскачыў, маліць стаў: «Здзірцамі не будзьце! Няўжо етак прыспічыла, каб асушаць нас?» А яны: «Іначай не можам. Іначай мы, дзядзько, Амэрыкі не дагонім!..»

Жанчына змоўкла, скубанула жменяй сухое травы, што выбілася між валуноў, хацела кінуць яе на цяпельца, ажывіць агонь, але не кінула — паклала траву ля ног.

## Трынаццаць бульбінак

(Ахвярую С. М. НОВІКУ-ПЯЮНУ).

Змалку палюбіўся гэты немужчынскі занятак — абіраць бульбу.

Пакуль стараўся ножычак, пакуль звіваліся над лазовым кашом лушпавінкі-габлюшкі, — дзе толькі ні пабываеш! Аббяжыш лугавінку, праверыш самыя грыбныя мясціны, паносіш за пазухай суседава кацяня і вернешся дадому — шчаслівы і радасны...

А сёння згадалася іншае.

...Забралі з матчынай хаты і павезлі на край свету.

Чужое неба. Чужая зямля. Чужое сонца. І катаржная праца.

Год, пяць, дзесяць. Нарэшце атрымаў з дому пасылачку. Маці слала трошкі солі, аржаных сухароў, некалькі бульбін. З таварышамі па няшчасці падзяліў сваё багацце.

Мінула яшчэ адно кароткае лета. Набліжалася новая палярная ноч. Падыходзіць таварыш і кажа: «Запрашаю на свята!..»

Калі ўбачыў на замызганых лагерных нарах кацялок з бульбай, зваранай у мундзірах, — сэрца ажно зайшлося. Бульба сыходзіла такім пахам! Бульба будзіла ўспаміны! Бульба вяртала на родную зямлю...

«Вясною ты ахвяраваў мне тры бульбіны, — сказаў таварыш. — Я

---

**У гэтыя дні пісьменніку Яраславу Пархуту спаўняецца 60 год з дня нараджэння. Праўленне СП БССР павіншавала яго з юбілеем і пажадала новых творчых поспехаў. «ЛіМ» далучаецца да гэтага віншавання і таксама зычыць свайму сталаму аўтару ўсяго самага добрага ў жыцці і літаратурнай працы.**

Знікае дзіўны воблік таямніцы,
Узвірваецца ўсякая брыда.

Але па часе мут зноў асядае,
Зноў плынь празрыста-вабная бяжыць.
На камень той ужо і не зважае.
А камень той як на душы, ляжыць.

## Гуканне ў пустыні

З'явіся, збаўца мой, з'явіся!
Адзін твой рух, адзін твой крок
Адхмарыць нада мною высі,
Ацьмелы авідушчыць зрок.

Мне вусцішна, што ўжо не бачу,
Куды іду я, хто тут я,
Што, як раней, слязой гарачай
Не ўскіпвае туга мая.

З'явіся, выбаў з утрапення!
І хай хвілінай той святой
Усё, што мкнецца да здзяйснення,
Па веры спраўдзіцца маёй.

## Тая ўсмешка

А. Дзм. КУШЧЫНАЙ

Праўду кажуць, што ўпоцемках доля
брыдзе,
Бо не раз і не два спатыкнецца,
Хоць магічны ліхтарык даецца —
Тая ўсмешка, якая на вуснах цвіце,
А карэніцца ў саменькім сэрцы.

Як багата людзей умурована ў змрок
Страху, злосці або нараканняў,
Ні сабе, ні камусьці ў блуканнях
Не пасвецяць ні поблізу, ані здалёк,
Параслеплыя да шкадавання.

І як мала, як мала між люду такіх,
Хто ва ўласнай хадзе па выбоях
Зберагае, як найдарагое,
Чысты вогнік свайго міласэрдзя да ўсіх,
Сам аж свеціцца хто дабратою.

Але вось ён, нябесны ці дар, ці заклён:
Покуль ляжаш грудочкам пад сосны —
Аддавайся жыццю светланосна!
І цвіце тая ўсмешка, якая спакон —
Знак абранасці тайнай дзівоснай.

●

Душа ўзалочана і ўчэрнена,
І высям гэта не пярэчыць:
Душа, як зорачка вячэрняя,
Усходзіць радасці настрэчу!

## Рэмез

Прага неба, вышыняў прачыстых
Адкладзецца маршчынкай на лбе.
Дзень мой толькі з табой найсвятлісты.
Не крыляецца мне без цябе.

І ссутоньваюся, і нямею,
Хоць упарта, як рэмез, вяжу
Я гняздзечка любові — ў надзеі,
Што тваю адагрэю душу.

Прывід мары становіцца явай.
І нядзеліцца будні трыснёг
Ад табой зноў набытага права
Быць —
каб сонцам валодаць, як бог.

Над гняздзечкам лісток залацее.
Ва ўспамін ён у чый упадзе?
Супакойваюся і чысцею.
Ты са мной, і не горкі мне дзень.

## Ранне

Ноч. Ні зыку. Ад стала дападае
Ясначолых кацярынак дыханне.
Над зямлёю ледзьве-ледзь світае,
А ўва мне і апоўначы — ранне.

Скуль узяўся ты ў мяне гэткі,
Што ва ўсенькай старане наскай
Кветкі толькі ад цябе — кветкі,
Ласка толькі ад цябе — ласка?..

## І там...

Багаслаўлю і невычэрпны смутак,
Які струціў маю ўсю маладосць, —
Бо вось ён, дар за ўсе мае пакуты —
Твая мілосць.

Яшчэ гусцецьме долі соль на скронях,
Яшчэ душыцьме тленнага вагар,
Але душу ад гібелі ўбароніць
Той цудны дар.

Ні зрокам і ні ўявай за зямную
Не зазірну я за сваю мяжу.
О, каб знаццё! — што ты і там —
пачуеш,
А я — скажу:

— Багаслаўлю і невычэрпны смутак,
Які струціў зямную маладосць:
Бо вось ён, дар за ўсе мае пакуты —
Наша мілосць.

не спажыў іх, а пасадзіў у расколіне скалы, паблізу калючага дроту. І вось... Ажно трынаццаць бульбінак!..»

...Абняў таварыша і заплакаў.

## Свечканосец

Хавалі маладзіцу.

Труна плыла па вуліцы, як душагубка па Лані. За труною пакалыхваўся дубовы крыж. За крыжам ішоў свечканосец. І толькі за ім — блізкія нябожчыцы і ўсе астатнія з вёскі.

Свечканосец ступаў асцярожна, быццам баяўся спатыкнуцца. У левай руцэ ён трымаў жоўтую свечку, а праваю засланяў яе ад ветру — каб не патухла часам, каб знячэўку не памёр агонь...

Вось ад тае жоўтае свечкі пачалі разбягацца танюсенькія свечачкі... Яны ўжо шмат у каго ў руках... У маёй — таксама. Захінаю агеньчык далanёю, стараюся не дыхаць: і я цяпер свечканосец!..

Нарэшце старыя клады. Вырасла яшчэ адна магілка ў новым радзе. На яе апускаюцца свечкі. Шмат свечак.

Людзі разыходзяцца. Пры магілцы — толькі маці нябожчыцы. Пазіраю на згорбленую постаць і думаю: маткам ой як нялёгка перажываць дзяцей сваіх!..

Кідаю позірк на свечкі.

Многія дагарэлі.

Знаходжу вачыма сваю і чамусьці суцешыўся: мая не дагарэла яшчэ...

## Тройчы забіты

Яго прасілі:

— Вырві карані свае з зямлі гэтай, ідзі за намі. Толькі ў нас цябе чакае багацце.

Не вырваў. Не пайшоў. Не захацеў багацця таго. І яго забілі.

Яму прапаноўвалі:

— Адрачыся ад веры свае, прымі нашу. Толькі сярод нас цябе чакае слава.

Не адрокся. Не прыняў. Не захацеў славы тае. І яго забілі.

Яму загадвалі:

— Забудзь матчыну мову, назаўсёды пакінь народ свой. Толькі ў нас ты адчуеш сябе шчаслівым.

Не забыў. Не пакінуў. Не захацеў шчасця таго. І яго забілі.

...Тройчы забіты, ён застаўся навечна СЫНАМ зямлі сваёй.

## Звон

Яму лёсам наканавана было будзіць і клікаць. І ён будзіў і клікаў:

— Вялікдзень ідзе! Вялікдзень ідзе! Вялікдзень ідзе!..

Але замест дня таго ў абліччы прарока з'явіўся сатана і вынес вырак:

— Язык вырваць мала!

І загадана было яму замаўчаць. Навек.

Апусцела званіца. Цішыня мёртвая павісла над краем. Толькі жаваранак у небе ды званочак пад дугой іншы раз нагадвалі пра колішняе. А неўзабаве і яны змоўклі. Неўзабаве сыны ўдавалі бацькоў, мужы пакідалі жанок, маці адракаліся дзяцей сваіх.

Неба жахнулася:

— Што будзе?!.

Людзі ўчулі і пачалі вяртацца на родныя котлішчы. І паднялі звалена га высока над сабою. І вярнулі яму голас яго. І ён, як і некалі, стаў будзіць і клікаць.

Учора я зноў пачуў:

— Вялікдзень ідзе! Вялікдзень ідзе!..

Званіла званіца сярэбраным звонам.

Рабілася хораша на душы.

І кожны зноў задумваўся над галоўным — што ёсць зло, а што ёсць дабро на гэтай грэшнай зямлі.

## Маналог пілігрыма

Не з аднае крыніцы піў жывую ваду. Не на адной ніве чуў жальбу жытняга коласа. Не з аднаго бору-гаю збіраў апошнія птушыныя калыханкі. Напрыканцы дня ў забытых богам і людзьмі вёсачках трывожыў сэрца нялёгкім роздумам пра наш заблытаны свет і адначась радаваўся паданням і былічкам, якія апавядалі пра мой многапакутны народ. І з кожнага падарожжа вяртаўся больш відушчы ды багацейшы душою.

Але нялёгка ісці па знявечанай зямлі. Іншы раз нават боязна збочыць з дарогі, — каб адпачыць і наталіць смагу. Боязна дакрануцца да кветкі. Боязна ўзяць ягадзіну. Боязна падняць грыб. Урэшце, боязна дыхаць! Бо ўсё гэта — паветра, грыб, ягадзіна, кветка, вада, — робіцца атрутай.

Чорнае крыло Чарнобыля вісіць нада мною, над маёй дарогаю — над усёй зямлёю... Узмах таго крыла — і вунь колькі жыццяў на валасінцы. Узмах таго крыла — і вунь колькі песень не спета. Узмах таго крыла — і вунь колькі кветак не бачаць сонца...

А я іду. І не хачу, каб за наступнай паваротkай скончылася мая дарога.

З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ

### Марыя ГУДКОВА

## Кнігі вучаць святлом даражыць

Святлане АЛЕКСІЕВІЧ

Кнігі вучаць
Святлом даражыць
І жыццём, што не мае цаны.
Столькі болю змагла перажыць,
Не свайго, а чужога — з вайны!
Столькі лёсаў адважна прыняць,
Як змагла іх у сэрцы змясціць!
Сэрцам пішаш, каб гора суняць,
За памылкі крывёй не плаціць.

Каб у цынкавых трунах сыноў
Не хавалі заўчасна бацькі,
І каб кроў не лілася ізноў,
Каб да ўлады не лезлі дзялкі.

Час няўмольны.
Ён хутка бяжыць.
Успаміны людзей, як званы.
...Столькі болю змагла перажыць,
Не свайго, а чужога — з вайны!

### Таццяна ДЗМІТРУСЁВА

## Вось як...

Сумуем часта па родным доме —
У горкім горы і ў простай стоме.
Сумуем часта, ды рэдка штосьці
У вёску едзем да маці ў госці.

Маўляў, няблізка. Маўляў, работа.
І самі верым сабе ахвотна.
А з-за штакетніка дзён замглёных
Дыхнула вестка. Ды так сцюдзёна...

Сумую часта па родным доме —
І ў горкім горы, і ў простай стоме.
Ды ўжо ніколі... Мне ўжо ніколі
Не прыгарнуцца да мамы болей...

### Таццяна КАРШУКОВА

## Маім бацькам

Ці ж дакараць мне вас, бацькі,
За тое змрочнае краіны?..
Вам пэўна выпаў лёс такі:
З капейкі жыць, гнуць марна спіны.

Не дакараю, не магу;
Ну хто бяскрыўдных дакарае...
Ішлі з усімі вы ў нагу —
Рукой падаць было да рая.

Не знеслаўляю вас, бацькі,
Бо іншыя тады грымелі...
Вы ж мелі толькі гузакі,
І мала радасці вы мелі.

І ўсё ж не страцілі давер —
Хоць шлях жыццёвы быў няўдалы:
У вашых сэрцах і цяпер
Жывуць святыя ідэалы.

## Кабінетны бог

Як толькі пераступіш ты парог,
Убачыш — за сталом
Сапраўдны бог!
Хутчэй спыніся
І ісці не смей:
Ты перад ім — нікчэмнасць,
Ты — пігмей!

Цяжкі ў яго, пагардлівы пагляд:
Не рад твайму прыходу,
Ой, не рад!
І моршчыцца, бы п'е прагорклы квас...
З якіх ён?
З тых, хто перажыў свой час.

## Ахвярам 37-га

Ніколі не ведала, людзі, ніколі,
Што іх забівалі і ў лесе, і ў полі —
Звычайных рабочых і камандзіраў,
Бяскрыўдных, сумленных
Народных куміраў...

За што забівалі?
За што — невядома:
Далёка ад дому
І блізка ад дому...

О як мне балюча,
Пакутліва горка:
Ні зоркі ж, ні крыжа
На ціхіх пагорках.

## Дзякуй

Пакуль вы побач,
Не паснулі,
Пакуль струменяць
Ласку вочы,
Вялікі дзякуй
Вам, бабулі,
За светлы
Подзвіг ваш жаночы!

## Вечар

На зямлю кладуцца цені...
Дагарае дзень асенні.

Зноў бязлюдна на дарозе.
Сонца свеціць у знямозе.

Хаты жоўтыя, як з воску,
Дрэмле стомленая вёска.

Толькі неба ружавее,
Там — ружовая завея.

●

Шэпчуць вусны: «Золатка...»
Ой, як добра, соладка!
Што ж мне яшчэ трэба?
Толькі зоркі неба,
Толькі ціша ночы,
Толькі твае вочы!..

●

Цёплыя ветры падзьмулі,
Зніклі зімовыя сны,
Неба, як вочы матулі,
Ззяе у промнях вясны.

Дорыць яно мне надзею —
Збудуцца мары мае.
Сэрцам я зноў маладзею,
Сэрца, як птушка, пяе!

у прафесіяналізме, арыгінальнасці, вастрыні ўспрымання.

Эскізы і макеты, прадстаўленыя на выстаўцы З. Марголіным, сведчаць аб шырыні творчых інтарэсаў і прафесійных магчымасцей маладога мастака. Спектаклі, над якімі ён працаваў, вельмі розныя — і па ўзроўні драматургіі, і па характары рэжысёрскай распрацоўкі. «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» паводле У. Караткевіча, «Тры дзяўчыны ў блакітным» Л. Петрушэўскай, «Спрэчка аб лысай спявачцы» Э. Іянескі ў афармленні Марголіна прываблІваюць імкненнем перадаць «клімат» дзеяння, стварыць свайго роду псіхалагічную дэкарацыю.

Інакш падыходзіць да стварэння эскіза брэсцкая мастачка Т. Карвякова. Добрае веданне патрабаванняў сцэны дазваляе ёй спалучыць у адным творы вартасці жывапіснай карціны і «рабочы» характар эскіза («Паляванне ў Альпах» Р. Тома) — у ім адчуваецца рэальная прастора, намечаны варыянты планаў для ігры акцёраў, пабудовы мізансцэн.

Прадстаўленыя ў экспазіцыі работы мастакоў для лялечных тэатраў заўсёдна прываблІваюць. У першую чаргу тут трэба назваць макеты А. Фаміной, мастачкі, творы якой з выстаўкі ў выстаўку становяцца калі не цэнтрам экспазіцыі, дык адным з яе найбольш каштоўных элементаў. Макеты да спектакляў «Рыгорка, ясная зорка» А. Вярцінскага (Тэатр лялек г. Любляны, Югаславія) і «Сымон-музыка» Я. Коласа (Дзяржаўны тэатр лялек БССР) адразу звяртаюць на сябе ўвагу.

У чорна-попельнай прасторы «Сымона-музыкі» ўгадваецца дарога, усеяная каменнем, спарахнелыя крыжы вясковых могілак, а крыху ўводдалі, як кліч недасяжнай мары, ззяе белым колерам адкрыты раяль. Альбо з чорных шырм спектакля «Рыгорка, ясная зорка», як з нашае даўніны, глядзяць у залу разьбяныя ідалы. За доўгі час яны страцілі свой колер; у грубаватых, але вельмі выразных абрысах народнай скульптуры нібыта схавана нейкая таямніца. Здаецца, гэта нашы далёкія продкі ажылі, каб расказаць гісторыю з мінулых часоў.

Так, работы А. Фаміной задаюць агульны высокі тон для мастакоў лялечных тэатраў. Прыемна, што гэты тон злоўлены і падхоплены.

Адметнае бачанне вядомай казкі дэманструе ў эскізах лялек і дзеючых асоб да спектакля «Прыгоды Бураціна» А. Вахрамееў.

Да ліку найбольш цікавых твораў, прадстаўленых на выстаўцы, трэба аднесці таксама макет В. Рачкоўскага да «Дракона» Я. Шварца (Магілёўскі тэатр лялек). Рачкоўскі не пераносіць дзеянне ў старадаўнія часы, але і не звязвае яго *з нашым сённяшнім днём*. Месца дзеяння і яго часовыя межы пэўна размытыя, але строгія формы геаметрычна правільнай архітэктуры, цьмяны бляск граніту ці нейкага іншага каштоўнага абліцовачнага каменя міжволі нагадвае архітэктуру перыяду таталітарных рэжымаў. Механічныя дзверы надаюць пабудове якасці бункера; металічныя канструкцыі — рэшткі будаўнічых рыштаванняў — «ламаюць» устойлівасць і надзейнасць бункера, ствараюць адчуванне разору і няўтульнасці. Касцюмы дзеючых асоб, фантазіі на тэму вайсковага фрэнча, завяршаюць карціну таталітарнай дзяржавы, створанай В. Рачкоўскім.

Узровень трэцяй выстаўкі вынікаў сезона вызначыла не багацце імёнаў, а каштоўнасць індывідуальных рашэнняў і іх разнастайнасць. І гэта дае падставы спадзявацца на ўсталяванне традыцыі падобных аглядаў, на паглыбленне ўвагі да праблем выяўленчага рашэння сучаснага спектакля.

*Ларыса* **ДАБРАВОЛЬСКАЯ.**

## *Музыка*



# «ХТО ЁСЦЬ Я?»

**Штрыхі да творчага партрэта А. Елісеенкава**

Прызнаюся, творчасць Алега Елісеенкава для мяне вельмі цікавая і прывабная. І, пагадзіўшыся напісаць пра яго, я нават не чакала цяжкасцяў, з якімі давялося потым сустрэцца.

Калі я паспрабавала дамовіцца з Алегам наконт гутаркі, мне здалося, што ніколі яго не адшукаю: май—ён у Чэхаславакіі на фестывалі, чэрвень —ён на фестывалі ў Маскве, потым—на фестывалі ў Кіславодску і г. д. Нагадваю гэта зусім не дзеля таго, каб паскардзіцца на Алегаву няўлоўнасць. Проста—такое ўжо характэрнае аблічча Елісеенкава, стыль жыцця, абумоўлены ягонымі тэмпераментам, няўрымслівасцю, рухавасцю ва ўсім, што датычыць творчасці і музычнага мастацтва.

Урэшце мы сустрэліся, але нельга сказаць, каб з гэтага моманту зрабілася лягчэй, бо сціплая мэта майго распавяду (сказаць трохі пра маладога кампазітара, ягонае адчуванне сябе ў мастацтве і прафесіі) ніяк не спалучалася з тым каскадам ідэй і абагульненняў, нечакана крутых паваротаў у розныя сферы чалавечых ведаў, які літаральна абрынуўся на мяне. Але падумалася, што ўвогуле мастак і павінен быць філосафам, і размаўляць сур'ёзна пра мастацтва можна, здаецца, толькі грунтуючыся на пэўных філасофскіх катэгорыях.

Ці не таму філасофска-псіхалагічная Трэцяя сімфонія А. Елісеенкава нікога не пакінула абыякавым, здзівіўшы глыбокім адчуваннем дыялектыкі свету і жыцця? У ёй—роздум пра жыццё сваё і пра жыццё наогул, глыбока самаснае ўспрыманне свету. І па-мастацку ўсё гэта вельмі пераканаўча. Яркі тэматызм, прадуманая характарнасць роляў кожнага з тэмбраў-персанажаў... Але, акрамя гэтых вартасцяў, у творы ёсць і нешта яшчэ — тое характэрнае, што складае сутнасць асобы самога А. Елісеенкава. У ёй два асноўныя вобразы гранічна кантрастныя, нават палярныя, дакладней, гэта два бакі аднаго вобраза, якія пераканаўча ўвасабляюць два кірункі: актыўны, нават агрэсіўны і — крохкі і безабаронны, што жыве ў кожным з нас (толькі адзін яго страчвае, паступова і мэтанакіравана забівае ў сабе ці ўспрымае як недахоп, іншы ж зберагае, хавае недзе глыбока-глыбока...). Гэткая ўнутраная двоістасць, мне здаецца, — сутнасць самога кампазітара, спалучэнне знешняй самаўпэўненасці, імклівасці, падкрэсленай дзелавітасці і жорсткай «сучаснасці» з нечым іншым, сутнасць якога — бясконцы пакутлівы одум і сумненні перад адвечнымі для мастака тэмамі: «ХТО ёсць я?», «хто ЁСЦЬ я?», «хто ёсць Я?».

Як згадвае настаўнік Алега, Дзмітрый Смольскі, густ ягонага вучня фарміраваўся паступова. Да паступлення ў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю (Алег вучыўся ў Маладзечанскім музвучылішчы) ён актыўна ўдзельнічаў у папулярных тады біт-ансамблях, адсюль і адпаведныя густы. З імі ён і прыйшоў у клас Д. Смольскага. І што ўразіла адразу ж і неаднойчы — потым, дык гэта імклівы рост яго ў творчасці. Паступаў у БДК з опусамі досыць традыцыйнымі па форме і сціплымі па мове, а скончыў навучанне шэрагам яскравых камерных твораў, сярод якіх Саната для кларнета сола, Квартэт для кларнета альта, віяланчэлі і фартэпіяна, Варыяцыі для ўдарных, вакальны цыкл на вершы Осіпа Мандэльштама. Менавіта гэтыя творы прадвызначылі два пазнейшыя і заслужана прызнаныя вакальныя цыклы на вершы Марыны Цвятаевай.

З сімфанічных твораў Алега найбольшае прызнанне, як ужо вядома, атрымала Сімфонія № 3, якая была прадстаўлена і на апошнім з'ездзе Саюза кампазітараў Беларусі. А ў творчым партфелі аўтара ўжо Чацвёртая сімфонія — меладычная, прасякнутая славянскай распеўнасцю, глыбокім лірызмам.

Тая самая двоістасць, пра якую я казала і якую нельга не заўважыць у абліччы А. Елісеенкава, выяўляецца і ў ягонай творчасці. У ёй два бакі: акадэмічны, *пра які ўжо трохі сказана*, і рок-музыка ў шырокім дыяпазоне. Вядома, што часам кампазітары, працуючы ў двух гэтых напрамках, спрабуюць (і не заўсёды беспаспяхова) стварыць свой стыль, які спалучае абодва напрамкі. Але Алег, лічачы іх узаемавыключальнымі, паслядоўна праводзіць прынцып незмяшання.

Але ж, калі твая творчасць падзяляецца на дзве галіны, дык і пытанні ўзнікаюць адначасова з двух бакоў.

Чаму, калі ў жанры «сур'ёзнай» музыкі ты можаш тое, на што іншыя не здатныя (такая цікавая Другая сімфонія, цудоўная Трэцяя, самабытная, арыгінальная, чароўная камерная музыка), — чаму ты кідаешся ў рок-плынь, заўзята аддаеш даніну таму, што называеш «шоу-бізнесам»?

У цябе ёсць досыць багаты вопыт працы ў рок-музыцы, чуццё і адчуванне сутнасці яе —словам, ёсць усё, каб працаваць у гэтай галіне, дык навошта табе тыя сімфоніі, квартэты, каму яны патрэбныя?

Я не ведаю, што А. Елісеенкаў адказвае на другое пытанне, бо сама належу выключна да тых, хто задае яму пытанне першае. Мне Алег адказвае, што гэта і «покліч юнацтва», і аддушына, і прывабнасць такога паняцця, як «магія подыху залы», чаго, на жаль, не дачакаешся на канцэртах камерных ды сімфанічных...

Тут, як і паўсюль, усё залежыць ад асобы мастака. Што пераважае: прага самавыяўлення, хай і не зразумелая «пераважнай большасці», ці ўсё ж такі прага папулярнасці (нават у самым лепшым яе сэнсе)? Алег спрабуе спалучыць у сваёй творчасці і тое, і другое. Адсюль гэтая двоістасць, якая часам ускладняе адносіны з ім...

**— Самае галоўнае для мастака — знайсці сябе, — разважае А. Елісеенкаў. — Спачатку мне здавалася — знайсці сваю веру, а *потым зразумеў: знайсці сябе* — гэта нешта больш ёмістае, чым вера, — знайсці сябе ў ёй! Быць паслядоўным, аднойчы зрабіць выбар і тады адразу ўсё становіцца прасцей, адпадае шмат чаго непатрэбнага. Я лічу, што для цывілізаванага чалавека, які жыве інтарэсамі сённяшняй навукова-тэхнічнай, мастацкай, філасофскай думкі, пытанне пра значнасць элітарнага мастацтва ўзнікаць не можа. Але ж і існаванне пэўнай эліты залежыць ад канкрэтных гістарычных умоў і абставін. Эліта — гэта якаснае паняцце, а не колькаснае... Высокі ж якасны склад *ніколі не бывае вялікі*. Ужо, здаецца, сотню разоў даказана абсурднасць лозунга: «Большасць заўсёды мае рацыю!» Ды ўсё ж вялікая сіла інерцыі: само слова — «элітарнае» працягвае палохаць, і свядомая скіраванасць *мастака на элітарнасць* вымагае нават пэўнай мужнасці пры выбары.**

**А, наогул, ці існуе выбар у нашай прафесіі? Шмат каму з кампазітараў здаецца, што яны самі абіраюць жанр, манеру пісьма, але гэта толькі так здаецца. Кампазітар у рэшце рэшт выбірае тое, што яму больш удаецца. Для доказу гэтай думкі магу спаслацца на Льва Талстога, які заўважыў, што палітыкі лічаць, быццам гэта яны ствараюць гісторыю, а на самай справе з тысячы загадаў выконваюцца сто (гаворка ідзе пра вайну), а ўсё іншае залежыць ад акалічнасцяў, ад выпадку. Я працую ў жанры рок-музыкі і іншыя таксама. Але яны адчулі, *што ў гэтым жанры* яны не дасягаюць той ступені якасці, як у іншых жанрах, і кінулі. Я ўпэўнены, што менавіта РЭАКЦЫЯ НА ТВОРЧАСЦЬ стымулюе яе працяг!**

Можа, у развагах А. Елісеенкава не ўсё пераканаўча, нешта выкліча пярэчанне, але і ў гэтым—ягоны стыль: падбухторваць на спрэчкі, варушыць думку субяседніка. Два кірункі ягонай асобы змагаюцца адзін з адным. Але ж без **сумненняў**, а значыць, без пошукаў мастак перастае быць мастаком. І шчаслівы той, хто не стамляецца ад іх.

Адзначаючы глыбокую лірыку Другой сімфоніі А. Елісеенкава, напружаны псіхалагізм Трэцяй, арыгінальны каларыт яго камернай музыкі, абаяльнасць яго вакальных цыклаў, мне здаецца, што менавіта ў акадэмічных жанрах чакаюць яго шчаслівыя знаходкі, што менавіта тут здолее Алег знайсці свой уласны шлях, набыць свой, непаўторны голас.

Галіна **ГАРЭЛАВА.**

# ЯШЧЭ АДНО ІМЯ

**Нядаўні аўтарскі канцэрт заслужанага дзеяча мастацтваў РСФСР, заслужанага дзеяча культуры БССР кампазітара Эдуарда Казачкова пазнаёміў слухачоў з аўтарам, чыя творчасць аднолькава цікавая і для дзіцячай аўдыторыі, і для дарослых. Вечар у Зале камернай музыкі, што на Залатой Горцы, так і разгортваўся: у першым аддзяленні — харавыя і інструментальныя творы для дзяцей і юнацтва, нават прагучалі ўрыўкі з дзіцячай оперы «А куфэрак проста адчыняўся», а праграма другога аддзялення прадставіла нам сур'ёзнага мастака, звернутага ў сваёй музыцы да праблем сучаснасці.**

**У цэлым пра творы Э. Казачкова магу сказаць, што гэта музыка меладычная, ясная, не пазбаўленая шматслоўнасці, схільная да дынамічнай афектацыі, звязаная з традыцыйнай музычнай мовай, вельмі прафесійная і лёгкая для ўспрымання слухачоў. Многія творы хоць і прагучалі ў канцэрце ўпершыню, успрымаліся публікай вельмі цёпла.**

**Э. Казачкоў — выпускнік дзвюх ВНУ: Інстытута ваенных дырыжораў у Маскве і Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі (клас кампазіцыі А. Багатырова). Першая спецыяльнасць Э. Казачкова надала большасці яго опусаў пэўную накіраванасць: героіка-патрыятычная тэматыка, інструментальна-аркестравае мысленне, дэмакратычнасць сродкаў выразнасці. А засвоеныя ім прынцыпы беларускай кампазітарскай школы скіравалі яго да песенных і вакальна-харавых жанраў. Ужо ў 60-я гады ён піша шмат песень і п'ес для духавога аркестра, з'яўляюцца творы буйной формы і першыя спробы ў чыста інструментальнай музыцы. Дамінуе ў гэты перыяд тэма роднай зямлі (Э. Казачкоў *нарадзіўся і вырас* у Беларусі), абарона яе ад фашысцкага нападу. (Кантата «Беларусь», сімфонія «Памяці Веры Харужай», паэма «Крэпасць над Бугам» і інш.).**

**З 1974 па 1987 год Э. Казачкоў жыве на Далёкім Усходзе. і ў ягонай творчасці з'яўляюцца новыя тэмы, навеяныя свежымі жыццёвымі ўражаннямі. (Сюіта «Таежны аўтограф» — пра будаўнікоў БАМа, уверцюры для сімфанічнага аркестра «Партызаны Прыамур'я» і «Маладзёжная» і інш.).**

**Можна сказаць, што з вяртаннем у 1987 годзе Э. Казачкова на Беларусь пачаўся «другі беларускі перыяд» ягонай творчасці. Мінула няшмат часу, а ім ужо напісана многа твораў для дзяцей і юнацтва (што і вызначыла праграму аўтарскага канцэрта). Кантата «Слухай родную прыроду» на словы В. Жуковіча, «Балада, танец і варыяцыі» на народныя тэмы для фартэпіяна, «Гумарэска» для віяланчэлі з фартэпіяна, «Саната» для баяна... У гэтых творах кампазітар не здраджвае сваім прынцыпам: яснасць і даходлівасць музычнай мовы, разнастайнасць жанравасці.**

**Адзначу, што ўзамен колішняй схільнасці аўтара да сэнсавай канкрэтыкі слова ў яго *пабольшала цікавасць да інструментальна-абагульненага спосабу мыслення*. У сувязі з гэтым мяне ўразіла паэма для кантрабаса і фартэпіяна «Званы Хатыні», дзе нязвыклым для саліравання тэмбрам кантрабаса і інтаніраваннем ствараецца гаротны, журботны, часам злавесны свет гукавых вобразаў, якія ўвасабляюць *былую трагедыю*.**

**Аўтарскі канцэрт — гэта заўсёды бенефіс творцы. І ўсё ж не магу не назваць выканаўцаў канцэрта, тым больш, што многія з іх упершыню выйшлі на эстраду і атрымалі «хрышчэнне публікай». Гэта лаўрэат міжнародных конкурсаў знакаміты хор «Журавінка», мінскай СШ № 130 (мастацкі *кіраўнік* і дырыжор А. Еўсюкоў), лаўрэаты і дыпламанты ўсесаюзных і міжнародных конкурсаў скрыпач М. Гершовіч, баяніст І. Атраднаў, спявак А. Шчарбакоў, піяністка Б. Штэйнбук, кантрабасіст У. Байдаў, а таксама заслужаная артыстка БССР Л. Максімава, спявачка Н. Паўлава, піяністы Ю. Корсак, Г. Сердзюкова. І — навучэнцы Сярэдняй спецыяльнай музычнай школы пры БДК віяланчэлістка Святлана Ярцава, піяністы Сяргей Смірноў і Лідзія Старцава. Усе яны сваім выкананнем садзейнічалі поспеху аўтара.**

**Вальтэр МНАЦАКАНАЎ.**

НАДЗЁННЫЯ РАДКІ

Уладзімір ВЕРАМЕЙЧЫК

## *Палескі трохкутнік*

Юзэфе ЗБАРОЎСКАЙ

**Маці мая нарадзілася ў светлай Нароўлі,
У Брагіне светла-зялёным убачыў я свет,
Сын мой зачаты ў Хойніках светла-ружовых,—
Мір, чысціня і святлынь панавалі ў мілым кутку.**

**Стронцый, Плутоній і Цэзій упалі з нябёсаў,
Густа засыпаны атамнай соллю палеткі, лугі.
Прыпяць, Славечна, Брагінка і безліч рачулак
У мулкай нукліднай пасцелечцы выснілі страшныя сны.**

**Знікла гармонія: сталі мы лесу баяцца,
Сталі баяцца нябёсаў і колісь рахманай вады.
Смажыцца рыба у чорных вірах забаронных,
Яблыкі Цэзіем спеляцца ў сумных палескіх садах.**

**І закруціў мяне чорны палескі трохкутнік:
Еду ў Нароўлю — бялеюць са Стронцыю горы бліноў,
Брагін у хмельную брагу падсыпвае Цэзій,
З Хойнік Плутоній, рушнік павязаўшы, насустрач бяжыць.
К Богу праб'юся праз кардоны ўсіх сакратарак
І на каленях скрываўленых буду я ў Бога прасіць:**

**Хойнікі, Брагін, Нароўлю вярні безадкладна,
Чыстымі,
чыстымі,
чыстымі
мне і народу вярні.**

## *Паездка ў Тураў*

Настаўніку беларускай мовы
Фёдару Міхайлавічу САЎКУ.

**У Тураў да Саўка пад вечар дабяруся,
Да ранку дап'яна з ім нагаваруся.
Нагаваруся з ім дасхочу я да ранку
Пра мову, што стаіць сіроткаю каля ганку.
На мове дарагой, на мове нашай роднай
Наплачамся цішком, маўчком, непрынародна.
І Прыпяць забурчыць апоўначы трывожна:
«Скажыце, мужыкі, ці плакацца так можна?»
Эх, Прыпяць, Прыпяцень! Мы літасці не просім,
Захочацца яшчэ — як бабы, загалосім.
Заплачам — валасы у бюракратаў дыбам,
Бо нам усё адно: на славу ці на дыбу.
Бо нам жыцця няма без нашай сакавітай,
Без роднай, дарагой, знявечанай, забытай.
Ці ж будзем і далей у горычы і скрусе
На мове несваёй гугнець у Беларусі!?
У Тураў да Саўка пад вечар дабяруся,
На мове дарагой я з ім нагаваруся.**

# ЧАС СТРАЧАНЫХ ІЛЮЗІЙ, ЧАС НАДЗЕЙ

(Пачатак на стар. 5).

**ядае грамадства, як ракавая пухліна. Невыпадкова лры Вярхоўным Савеце СССР створаны камітэт па прывілеях.**

— Мая асабістая прывілея— працаваць не менш дванаццаці гадзін у суткі, а вечарам выслухоўваць папрокі жонкі, што ёй давялося ў магазіне выстаяць доўгую чаргу, што ўвесь хатні клопат ляжыць на яе плячах і да т. п.

**— Аб прысутных, як кажуць, не гавораць. Але і ў нас у рэспубліцы наменклатурная эліта карыстаецца немалымі прывілеямі. Што, напрыклад, мы ведаем пра пасёлак Дразды, ля ўезду ў які стаіць міліцэйскі пост, ахоўваючы спакой урадавых дач! Гэта толькі адзін факт.**

— Не ведаю нават, у якім баку знаходзяцца тыя Дразды, але цвёрда перакананы, што ЦК Кампартыі Беларусі павінен прыняць канчатковае рашэнне аб адмене падобных прывілеяў. І ўсё-такі нельга атаясамліваць партыю з Брэжневым, Суславым, Чарненкам, з сотнямі, хай з тысячамі карумпіраваных, страціўшых апошняе сумленне партыйных босаў. Пераважная большасць камуністаў — рабочыя, сяляне, народная інтэлігенцыя, нічым не заплямiла сябе. Ва ўсе часы гэтыя людзі сумленна працавалі, аддаючы справе ўсе сілы, вопыт, талент.

**— Мяркуючы па праекце платформы, партыя больш не будзе прэтэндаваць на палітычную манаполію, пабудуе свае адносіны на аснове дыялога, дыскусіі, супрацоўніцтва і партнёрства з усімі грамадска-палітычнымі арганізацыямі, якія дзейнічаюць у рамках Канстытуцыі СССР. Як гэта будзе выглядаць на практыцы!**

— Так, сапраўды, тут сказана, што партыя не прэтэндуе на манаполію, яна, фактычна, ператвараецца ў адну з парламенцкіх партый. Я думаю, што мы ўжо жывём ва ўмовах шматпартыйнасці, незалежна ад таго, як сябе называюць тыя ці іншыя грамадскія ўтварэнні. КПСС гатова, і гэта неаднойчы адзначалася на Пленуме, да сумленнага спаборніцтва з імі ў рамках дэмакратычнага працэсу за мандаты органаў улады.

**— Вы *лічыце,* што гэта будзе спаборніцтва на роўных!**

— Чаму ж не?

**— Але ж у праекце платформы пацвярджаецца рашучасць КПСС змагацца за захаванне статуса кіруючай. У распараджэнні партыі вялізны *апарат, ёй падначалены армія,* органы ўнутраных спраў, дзяржаўнай бяспекі. Якая ж можа быць гаворка аб «сумленным спаборніцтве»!**

**Ці не таму народныя дэпутаты — прадстаўнікі партыйнага і дзяржаўнага апарату так настойліва змагаліся на другой сесіі Вярхоўнага Савета супраць самой спробы паставіць пад сумненне правамоцнасць існавання 6-га артыкула Канстытуцыі СССР, які дэкларуе кіруючую ролю партыі.**

— Я асабіста тады быў за адмену гэтага артыкула. Ніхто, здаецца, не выказаўся ў яго абарону і на лютаўскім Пленуме ЦК. Як вы, мабыць, заўважылі, у праекце платформы недвухсэнсоўна адзначана, што партыя лічыць неабходным у парадку заканадаўчай ініцыятывы ўнесці на З'езд народных дэпутатаў адпаведную прапанову па артыкуле 6 Канстытуцыі СССР.

**— Чым вытлумачыць такі круты паварот! Ці не прадыктавана гэта рашэнне, і, як заўважыў у адным сваім артыкуле народны дэпутат СССР, акадэмік А. Емяльянаў, жаданнем прыпаднесці скасаванне 6-га артыкула, як ідэю самой партыі!**

— Мы «ўнізе», даўно гаварылі, што не ў артыкуле справа, аўтарытэт партыі трэба заваёўваць не пры дапамозе канстытуцыйнага артыкула, а канкрэтнымі справамі. Ну, а што тычыцца, як вы гаворыце, «крутога павароту», дык жыццё не стаіць на месцы, яно ўвесь час уносіць карэктывы. Вось і на гэты раз...

**— Вы маеце рацыю, справа не ў артыкуле... Але пагадзіцеся — пры нашай палітычнай сістэме КПСС створаны, калі можна так сказаць, цяплічныя ўмовы існавання, у той час як іншыя грамадскія ўтварэнні вымушаны прабіваць сабе дарогу праз неймаверныя цяжкасці. Вы паглядзіце, дагэтуль не зарэгістраваны Беларускі народны фронт «Адраджэнне», «Мартыралог Беларусі». Сёння гэта напаўлегальныя арганізацыі.**

— Будзем спадзявацца, што ў Вярхоўным Савеце СССР урэшце прымуць закон аб грамадска-палітычных арганізацыях, г. зн. фактычна закон аб партыях. Тады пытанні іх рэгістрацыі будуць пастаўлены на заканадаўчую аснову. І будзем мы мець свабоднае спаборніцтва ідэй. Але ідэй, вядома, не антысацыялістычных.

**— А ці не атрымаецца так, што «антысацыялістычнай» аб'явяць ідэю, якая выходзіць за рамкі афіцыйна зацверджаных пастулатаў сацыялізму! Між іншым, сацыялізм — паняцце не вельмі акрэсленае. Мы ж з вамі ведаем, што быў час, калі сацыял-дэмакратаў у нас інакш не называлі, як «сацыял-здраднікамі». Сёння КПСС у сваёй платформе дэкларуе супрацоўніцтва з рабочымі, сацыялістычнымі, сацыял-дэмакратычнымі і ліберальнымі партыямі замежжа.**

— Грамадства цяпер выплеснула на паверхню самыя розныя сілы, у тым ліку экстрэмісцкія, нацыяналістычныя, нават з'явіліся і манархісты. Але ў народзе хутка пачынаюць разумець, хто ёсць хто. Хто за кансалідацыю грамадства, а хто з усіх сіл імкнецца, па выразе М. С. Гарбачова, раскачаць і перакуліць лодку, у якой мы ўсе сядзім. Хіба не пра гэта сведчаць падзеі ў Закаўказзі, Таджыкістане, Фергане, іншых месцах? Там, дарэчы, і паказалі свой сапраўдны твар некаторыя грамадскія аб'яднанні.

**— Ва ўсіх краінах да дэмакратычнага руху прымазваюцца, бывае, самыя рэакцыйныя сілы, але ж гэта не значыць, што дэмакратыя не патрэбна...**

**Пад «заслону» хачу выказаць адно меркаванне, звязанае з дэмакратызацыяй партыі. Мяне, камуніста з трыццацігадовым партыйным стажам, мякка кажучы, здзівіла фармуліроўка праекта платформы, згодна з якой у партыі забараняецца ўтварэнне фракцый. Зноў дыктат большасці над меншасцю! Як «до того»! На маю думку, фракцыі ў партыі спрыялі б яе сапраўднай, а не дэкларававай дэмакратыі, плюралізму думак, выпрацоўцы свежых падыходаў да вырашэння наспеўшых у партыі праблем. Я ведаю, што многімі камуністамі з прыязнасцю было сустрэта стварэнне «Дэмакратычнай платформы ў КПСС», мэта якой—садзейнічаць абнаўленню партыі, актывізацыі ў ёй перабудовачных працэсаў.**

— Асабіста я за шырокую дыскусію ў партыі. Толькі ў спрэчках, супастаўленні думак можна знайсці аптымальнае рашэнне самай складанай праблемы. Але прымаць рашэнні трэба ўсё-такі большасцю галасоў. І прынятае рашэнне павінна быць абавязковым для тых, хто галасаваў супраць. Інакш — анархія.

**— Не за гарамі XXVIII з'езд КПСС. Адным з самых вострых пытанняў пры падрыхтоўцы да яго будзе фарміраванне дэлегацкага корпуса. Вельмі складаная справа, ці не так!**

— Раней у партыі існаваў шматступенчаты парадак выбараў дэлегатаў на з'езд, які даваў магчымасць апарату адфільтроўваць непажаданых кандыдатаў. У праекце Платформы ЦК КПСС прадугледжаны прамыя, альтэрнатыўныя, пры тайным галасаванні выбары дэлегатаў. Думаю, што яны нечым будуць нагадваць выбары ў Вярхоўны Савет. Кожная пярвічная партарганізацыя выбярэ свайго кандыдата, якія потым сыдуцца ў сумленным паядынку на заводскай партканферэнцыі. Не можа быць і гаворкі аб нейкім дыктаце ў час выбарчай кампаніі. Паедзе на з'езд лепшы.

Наш час, бывае, называюць часам страчаных ілюзій. Я б дадаў — і надзей.

**— Дзякуй, Эдуард Васільевіч, за гутарку.**

*Думка чытача*

# Чым жа мы апраўдаемся?..

**У нас гордасць жыве,
Але вельмі замала ў нас годнасці:
Мала школ беларускіх,
Бяднее духоўны наш хлеб.**
Пімен ПАНЧАНКА.

Гродзеншчына — своеасаблівы куточак Бацькаўшчыны нашай, у якім, акрамя беларусаў, жывуць і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей: рускія, палякі, літоўцы, яўрэі... Цесна перапляліся іх нацыянальныя культуры, традыцыі як па прычыне свайго геаграфічнага становішча, так і ў сувязі з адзінствам агульнагістарычнага развіцця.

Сёння як ніколі варта вельмі сур'ёзна ацаніць урокі мінулага, уважліва прааналізаваць усе «за» і «супраць» у адносінах да моўнай праблемы. На яе, не памылімся, наклала свой выразны адбітак гісторыя, складаная, з мноствам «белых плям», а яны, на жаль, падаюцца яшчэ са шматлікімі недагаворваннямі, прыфарбоўваннем, фальсіфікацыяй тых ці іншых падзей нашага далёкага і сучаснага. У гэтай сітуацыі становучая, а мажліва і рашаючая роля выпадае Гродзенскаму дзяржаўнаму універсітэту, які ў дадзеным рэгіёне мае велізарнае значэнне ў плане падрыхтоўкі і навучання на роднай мове спецыялістаў для ўсіх сфер жыццядзейнасці нашага грамадства.

Родная мова і духоўнасць...

Толькі ці не гучныя гэтыя словы для большасці з нас? Ці здольны яны прабудзіць у душах нашых такую неабходную культуру свядомасці, усведамлення сябе як народа, роўнага сярод роўных? Бо што гэта за духоўнасць, калі яна пазбаўлена яшчэ сапраўднага патрыятычнага пачуцця, пачуцця гонару і павагі да бацькоў, да каранёў вялікага гістарычнага дрэва роду свайго?

Культура, духоўнасць, мова — гэта звенні аднаго ланцуга. Страта нават аднаго звяна зводзіць на ніштo нашыя самыя сур'ёзныя намеры і памкненні.

На ўступных экзаменах у ГрДУ яшчэ ў мінулым годзе студэнты адказвалі па-беларуску. Уражанні неадназначныя. Не ўсім гэтая навацыя прыйшлася даспадобы, не ўсе сур'ёзна паставіліся да яе. Аднак гэты эксперыментальны крок, апрача ўсяго, у адзіночным ліку сярод усіх ВНУ рэспублікі апраўдаў сябе: большасць абітурыентаў, нават не на гуманітарных факультэтах, адказвалі на добрай мове. А гэта гаворыць пра многае. Патрэбен толькі першы крок, прадуманы, узважаны, цвёрды — на розныя надакучлівыя перасцярогі «хаця б чаго не выйшла», асабліва цяпер, калі беларуская мова стала дзяржаўнай у межах рэспублікі. Такі крок універсітэта варта толькі вітаць — як і адкрыццё чыста беларускага аддзялення на філалагічным факультэце.

Разам з тым распачаліся заняткі і ў дзвюх групах (беларуска-польскай і руска-польскай) на філалагічным факультэце. Зроблена было гэта з улікам пажаданняў палякаў, якіх быццам бы на Гродзеншчыне— каля трохсот тысяч (да названай лічбы патрэбна падыходзіць разумна, удумліва прачытваючы гісторыю краю, якая сведчыць пра прымусовае апалячванне і акаталічванне беларускага насельніцтва ў свой час).

Апрача ўсяго, ужо з наступнага года плануецца адкрыццё польскага аддзялення (польска-беларускай і польска-рускай груп), а пакуль зроблены яшчэ адзін крок на паскораную, фарсіраваную падрыхтоўку настаўнікаў польскай мовы для пачатковых класаў са студэнтаў старэйшых курсаў беларускага, рускага, беларуска-рускага аддзяленняў. Тлумачыцца гэта тым, што ў першы клас з польскай мовай навучання ў гэтым годзе пайшло больш за дзве тысячы дзяцей, і катастрафічна не хапае настаўнікаў польскай мовы. Прынамсі, польскія класы ёсць у большасці школ г. Гродна. А вось у беларускі клас, адзіны ў абласным цэнтры, пераступілі парог школы толькі 16 дзяцей!

Ну, а якую ж карціну мы наглядаем у Беластоцкім ваяводстве, на тэрыторыі Польшчы, дзе пражывае каля трохсот шасцідзесяці тысяч беларусаў? Газеты «Ніва» за 21 студзеня і «Гродненская правда» за 31 студзеня г. г. змясцілі артыкул Алеся Барскага «Новая дэмакратыя?». Аўтарам артыкулаў баліць, і гэты пякучы боль перадаецца і нам: нельга заставацца раўнадушнымі да таго, што сёння не хочуць заўважыць, нават выслухаць беларусаў у Польшчы.

І неяк ніякавата ад усяго гэтага на душы і на сэрцы, агортваюць сумненні і трывога. Не развейвае сум і прамова дэпутата ад Міхалішкаўскай выбарчай акругі Гродзенскай вобласці Д. К. Арцымені на XII сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі. Ён гаварыў: «У бягучым навучальным годзе ў вобласці працуе 764 школы, з іх больш як 500 — з беларускай мовай навучання. У 135 школах вывучаюць польскую мову, а ў 3 школах — літоўскую».

Што гэта за 500 школ з беларускай мовай навучання, у якіх большасць дысцыплін выкладаецца на рускай мове, мы ведаем. Шкада толькі (а гэта і трывожыць, насцярожвае), што дэпутат «запамятаваў», а мажліва і пасаромеўся сказаць у сваім выступленні **аб адзіным беларускім класе ў Гродне.**

Чым жа мы апраўдаемся перад нашчадкамі нашымі, калі не створым усе ўмовы для духоўнага адраджэння нацыі?

**П. МАЛЯЎКА.**

г. Гродна.

*Пошукі, знаходкі*

# Былі сябрамі Лесі Украінкі

Першыя месяцы 1901 года прынеслі ў жыццё Лесі Украінкі адну з самых страшных трагедый—у Мінску на яе руках памёр ад сухотаў піянер сацыял-дэмакратаў Украіны і Беларусі Сяргей Мяржынскі. Два месяцы вялікая ўкраінская паэтэса правяла ля ложка свайго дарагога сябра, імкнучыся дапамагчы яму выкарабкацца з кіпцюроў смерці. Ды марна: тужлівым сакавіцкім днём у Маскву з Мінска паляцела тэлеграма: «Сярожа памёр трэцяга сакавіка». Адрасавана яна была Веры Данілаўне Аляксандравай, сяброўцы Лесі Украінкі.

А потым былі лісты, шмат лістоў...

Ужо каля двух дзесяцігоддзяў Кіеўскі музей Лесі Украінкі імкнецца сабраць матэрыялы пра Веру Данілаўну Аляксандраву, якая ўвайшла ў жыццё ўкраінскай паэтэсы каля 1900 года, у час паездак у Мінск і сустрэч з С. Мяржынскім, даведацца больш і пра яе самую, і пра яе работу, блізкіх людзей.

Першая, магчыма, самая значная знаходка прыйшла ў 1970 годзе, калі ў Кіеве ў былой мінчанкі В. Агапавай супрацоўніку музея С. Кабану ўдалося адшукаць рукапіс успамінаў В. Аляксандравай аб дружбе з С. Мяржынскім і Лесяй Украінкай, датаваны 1932 годам. Два лісты Лесі Украінкі да В. Аляксандравай напісаны ў 1902 годзе. Гэтыя матэрыялы Вера Данілаўна перадала ў Кіеў для публікацыі ў пачатку трыццатых гадоў. На жаль, надрукаваны яны былі толькі ў 1970 годзе ў дзевятым нумары часопіса «Вітчизна», а таксама ўвайшлі ў кнігу «Леся Украінка ва ўспамінах сучаснікаў», выпушчаную выдавецтвам «Художественная литература» (1971).

Гэтыя матэрыялы, магчыма, упершыню, у поўнай меры паказалі нам глыбіню трагедыі, перажытай паэтэсай у 1901 годзе, сілу і прыгажосць яе пачуццяў, водгалас якіх знаходзім у вершах Лесі Украінкі 1900 — 1901 гадоў, у некаторых лістах да родных, сяброў.

Музей звяртаўся ў саратаўскія і мінскія архівы, у Маскву, Ленінград. Зроблена запытанне ў даведачныя бюро Мінска і Саратава. Аднак Вера Данілаўна памерла яшчэ ў 1933 годзе, імёны яе дачкі і ўнучкі нам не былі вядомы. І толькі ў радках В. Аляксандравай, прысвечаных кантактам яе дачкі Вольгі з С. Мяржынскім, гаварылася, што яна была бястужаўкай.

Колькі людзей спрабавалі нам дапамагчы ў гэтым амаль што безнадзейным пошуку! Сярод іх былая бястужаўка Е. Ізмесцева, аўтар кнігі аб Бястужаўскіх курсах Э. Фядосава, супрацоўніца Музея гісторыі Ленінграда Л. Творагава і многія іншыя. Шмат часу гэтыя людзі па нашай просьбе перабіраюць старонку за старонкай дакументы курсаў... Перабіраюць, каб у адзін цудоўны дзень разам з намі прачытаць іх.

Устаноўлена, што Вольга Аляксандрава была дачкой буйнога саратаўскага (з 1898 года — мінскага) чыноўніка Аляксандра Фёдаравіча Аляксандрава, унучкай вядомага ўкраінскага і рускага пісьменніка, гісторыка Данілы Лукіча Мардоўца (Мардоўцава). Яе маці Вера Данілаўна настаўнічала ў Саратаве ў Пакроўскай нядзельнай школе, з'яўлялася адной са стваральніц і актыўных удзельніц Саратаўскага таварыства прыгожых мастацтваў.

У 1898 годзе Вера Данілаўна і Аляксандр Фёдаравіч пераязджаюць у Мінск, дзе стацкі саветнік А. Аляксандраў пачаў служыць старшым рэвізорам Мінскага губернскага акцыйнага ўпраўлення.

Разам са сваімі новымі знаёмымі пісьменнікам Яўгенам Чырыкавым і яго жонкай Валянцінай Георгіеўнай, будучай актрысай Новага драматычнага тэатра В. Ф. Камісаржэўскай (сцэнічнае імя — Йёлшына) Аляксандравы ствараюць у Мінску таварыства прыгожых мастацтваў. Таварыства пачало працаваць у 1899 годзе. Аляксандравы прымаюць актыўны ўдзел ва ўсіх яго мерапрыемствах. Выступаюць як акцёры (А. Аляксандраў і як рэжысёр) у аматарскіх спектаклях, арганізоўваюць лекцыі, шмат чытаюць. Аляксандр Фёдаравіч рыхтуе і праводзіць 100-гадовы юбілей А. С. Пушкіна ў Мінску. На свяце ён чытае верш М. Лермантава «На смерць паэта».

Аляксандравы былі пастаяннымі арганізатарамі вечароў таварыства, на якіх абмяркоўваліся навіны тагачаснага палітычнага жыцця, літаратуры і мастацтва. Часта грошы ад гэтых мерапрыемстваў ішлі на дапамогу рэвалюцыянерам, а самі пасяджэнні ператвараліся ў свайго роду палітычныя дэманстрацыі, на якіх гучаў заклік: «Далоў самадзяржаўе!», аб чым сведчыць, у прыватнасці, справа дэпартамента паліцыі аб закрыцці Мінскага таварыства прыгожых мастацтваў у 1906 годзе,- якая захоўваецца ў ЦДГА БССР у Мінску (ф. 295, воп. 1, с. 7509). У ёй, між іншым гаворыцца: «У таварыстве прыгожых мастацтваў многія члены належаць да вельмі рэвалюцыйных партый... У час розных чытанняў дазваляюць антыўрадавыя прамовы і дэманстрацыі. У іх ліку надзвычай ненадзейная Вера Данілаўна Аляксандрава».

На месцы закрытага ўзнікла Літаратурна-артыстычнае таварыства. Зноў яго актыўнымі арганізатарамі і ўдзельнікамі сталі муж і жонка Аляксандравы. У 1903—1904 годзе Аляксандр Фёдаравіч быў, акрамя таго, членам Мінскага гарадскога камітэта народнай цвярозасці, у 1910—членам рэвізійнай камісіі Таварыства мастацка-прамысловага музея пры Мінскім камерцыйным вучылішчы. Муж і жонка Аляксандравы былі і сярод стваральнікаў Мінскага таварыства абароны жанчын.



Леся УКРАІНКА і Сяргей МЯРЖЫНСКІ сярод сваякоў пісьменніцы. Зялёны Гай. (Палтаўшчына). 1898 год.

Вера Данілаўна сябравала з Цёткай, пра што пазней нагадала ў сваіх успамінах. Жылі Аляксандравы ў Мінску па вуліцы Прэабражэнскай у доме Берлянда, жылі і на Вясёлай. Дзверы іх дома заўсёды былі адчынены для сяброў. Часта бываў у іх і С. Мяржынскі. Разам чыталі, абмяркоўвалі кнігі, палітычныя падзеі.

Калі ў 1910-ых гадах Аляксандр Фёдаравіч памёр, Я. Чырыкаў напісаў аб ім у сваёй кнізе «Успокоение», якая выйшла ў 1916 годзе ў Маскве. «Мне на працягу пяці гадоў давялося жыць і працаваць у г. Мінску і асабіста ведаць і працаваць на розных культурных пасадах з нябожчыкам Аляксандрам Фёдаравічам, — згадваў ён у мемуарах.—Гэта быў тып чалавека, якія выпрацоўвалі сярод рускай інтэлігенцыі запаветы 60-ых гадоў—бадзёры, стойкі, магутны духам, які не ведаў стомы ў грамадскай рабоце».

Звесткі, якія ўдалося атрымаць, сапраўды збіраліся па крупінках. Дапамаглі нам у гэтым мінскі ўрач і журналіст, аўтар аповесці пра С. Мяржынскага «Покліч Праметэя» («Мастацкая літаратура», 1987) Я. Басін, унук Я. Чырыкава ташкенцкі мастак У. Чырыкаў, супрацоўнікі ЦДГА БССР Н. Булыга і Я. Бравер, пісьменніца Л. Арабей, унук В. А. Пасэ, рэдактара часопіса «Жизнь», у якім супрацоўнічала і Леся Украінка, В. С. Пасэ (дацэнт Мінскага інстытута культуры), загадчык кафедры гісторыі гэтага інстытута А. Грыцкевіч, супрацоўнікі саратаўскай газеты «Коммунист», Ленінградскага дзяржаўнага гістарычнага архіва, Саратаўскага абласнога гістарычнага архіва і многія іншыя.

Цяпер мы працуем над стварэннем новай экспазіцыі музея Лесі Украінкі. Так хацелася б адшукаць і паказаць наведвальнікам новыя матэрыялы, у прыватнасці, фотаздымкі гэтых дарагіх Лесі Украінцы людзей.

Добра было б, каб адгукнуліся дзеці, унукі, праўнукі Вольгі Аляксандраўны Аляксандравай і яе брата Данілы. Мы з радасцю павялі б іх па абноўленых залах нашага кіеўскага музея, мы пайшлі б з імі па мінскіх вуліцах Сяргея Мяржынскага і Лесі Украінкі, і яны б зразумелі, што ёсць імёны, справы, людзі, якія не паміраюць. Не паміраюць таму, што жывуць у нашай памяці.

**Ала ДЫБА,**
**старшы навуковы супрацоўнік Кіеўскага літаратурна-мемарыяльнага музея Лесі Украінкі.**

## ПОМНІК Ф. СКАРЫНЕ— ДЗЕ І ЯКІ?

Другі тур конкурсу на праект помніка Ф. Скарыне не даў станоўчага выніку. Ніводзін з прадстаўленых праектаў (чатыры дагаворныя праекты творчых калектываў, якія аказаліся лепшымі ў першым туры, а таксама восем альтэрнатыўных — што не пярэчыла ўмовам конкурсу) нельга прапанаваць да рэалізацыі. Да такой высновы прыйшлі ўдзельнікі грамадскага абмеркавання 27 лютага ў Палацы мастацтваў (на ім выступіла 26 чалавек). Праўда, адзначалася, што ў параўнанні з праектамі першага тура зроблены крок наперад. Згодна з умовамі конкурсу, як вядома, былі абраны два месцы для будучага помніка Ф. Скарыне — перад будынкам Прэзідыума АН БССР і каля акадэмічнай бібліятэкі з выхадам на Ленінскі праспект. Скульптары і архітэктары не здолелі выйсці з тупіковай сітуацыі ў прывязцы помніка да каланады будынка Прэзідыума АН БССР. Давялося штучна «выцягваць» скульптуру Скарыны на вялікія памеры, па ўзору помнікаў, якія раней пастаўлены на праспекце. Мабыць, пластычнае рашэнне вобраза генія эпохі Адраджэння вымагае невялікай па памерах, але глыбокай па духоўным змесце скульптуры, якая магла б быць размешчана на тым месцы дзе зараз помнік Калініну (зразумела, з перайменаваннем плошчы), ці ў Верхнім горадзе.

28 лютага на сваім пасяджэнні рэспубліканскі аргкамітэт не ўхваліў ні адзін з праектаў другога тура. Было вырашана адмовіцца ад ранейшага месца і аб'явіць да 15 сакавіка 1990 г. бліц-конкурс на лепшае месца для помніка Ф. Скарыне. У час маючых адбыцца ў Мінску ўрачыстасцей з нагоды 500-гадовага юбілею Ф. Скарыны плануецца толькі закладка будучага помніка. А па выніках новага конкурсу аргкамітэт вызначыць лепшы праект.

**П. УЛАДЗІМІРАЎ.**




«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

# «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 08215 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.